


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

15 верасня 2017 года №37 (1168)

# Мы больш не спаткаемся ля "сцяляшкі"

**У Маладзечне зносяць гандлёвыя павільёны на Цэнтральнай плошчы**

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.

## Новы расклад руху цягнікоў па ст. Маладзечна

старонка 18

## Удзельнічай у акцыі і атрымай планшэт!

## Мы зноў запускаем акцыю "Дзясятачка"

старонка 2

ТЭМА НУМАРА



# Мы больш не спаткаемся ля "сцякляшкі"

**У Маладзечне зносяць гандлёвыя павільёны на Цэнтральнай плошчы.**

А на месцы іх, магчыма, з'явіцца ЗАГС.

Ад раніцы 8 верасня невясёлая карціна адкрылася вачам таго, хто праходзіў міма гандлёвых павільёнаў, якіх у народзе празвалі "сцякляшкі".

Пустыя павільёны, паведамленні пра тое, што магазіны пераехалі. А некаторыя павільёны стаяць ужо разабраныя.

Мы патэлефанавалі ў аддзел архітэктуры Маладзечанскага райвыканкама, каб запытацца, няўжо іх зносяць.

Трубку ўзяла начальніца аддзела архітэктуры і будаўніцтва **Святлана Хрусталёва**:

– Праўда? А я нават не ведала, што гэтыя павільёны пачалі зносіць. Але рашэнне аб зносе было прынятае даўно, відаць **Мятліцкі** (Іван Мятліцкі – прадпрымальнік – заўвага "РГ") сам заняўся гэтым пытаннем.

Іван Мятліцкі па тэлефоне расказаў, што сапраўды заняўся зносам павільёнаў.

– Нам не працягнулі арэнду, таму пачалі зносіць.

Колькі часу гэта зойме, прадпрымальнік не адказаў. Знос ідзе вельмі марудна. 13 верасня разабраныя былі толькі тыя самыя два павільёны, пра якія ішла гаворка 8 верасня.

– Гандляроў там ужо няма. Спяшацца няма куды. Разбяром.

На пытанне, што з'явіцца на гэтым месцы, Святлана Георгіеўна адказала:

– Дазвол на будаўніцтва жылых дамоў мы не атрымалі. Гэта цэнтр горада, яго ядро, таму будынак, які можна там узвесці, павінны быць грамадскага значэння. Мы прапанавалі ЗАГСу будавацца на плошчы. Канешне, там пагадзіліся, што месца прыгожае, але ўсё ўпіраецца ў фінансы. Калі знойдуцца інвестары, а мы іх шукаем, можна будзе гаварыць пра тое, што на месцы гандлёвых павільёнаў будзе ЗАГС або іншы будынак грамадскага значэння, які ўпішацца ў стылістыку забудовы.

### А чым адметныя плошчы гарадоў рэгіёна

У Вілейцы – фантан і тры скульптуры сталічных мастакоў. Некалі былі святлодыёдныя пальмы.

Цэнтральная плошча ў Маладзечне брукаваная камянямі Крэўскага замка. Праўда, цяпер вы брук не ўбачыце. Старажытныя чырвоныя камяні схаваныя пад пліткай. На Старым Месце – старажытным цэнтры горада – скульптура Вестуна.

У Валожыне ёсць помнік Папу Рымскаму **Яну Паўлу II**, але няма помніка Леніну.

У Мядзеле дзве плошчы. Якая з іх галоўная, нават цяжка сказаць. З плошчы Леніна адкрываецца прыгожы від на возера Мястра, недалёка ад плошчы Шаранговіча стаіць помнік паэту Максіму Танку.

У Смаргоні да Новага 2017 года работнікі мясцовага лясгаса зрабілі з дрэва вялікага пеўня – сімвала года – вышынёй амаль два метры.

У Ашмянах традыцыйны Ленін стаіць не ў цэнтры плошчы, а збоку, каб было дзе разгуляцца народу ў час масавых мерапрыемстваў.

На плошчы ў Астраўцы ёсць невялікі сквер. У ім скульптуры, створаныя падчас пленэру разьчыкаў па камяні.

Наталля ТУР,
Аксана ЯРАШОНАК.

## Мы зноў запускаем акцыю "Дзясятачка"

**Хочаце, каб ваша дзіця вучылася на "выдатна"? Падарыце яму добрую матывацыю – магчымасць за адзнакі зарабіць планшэт!**

**Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№39)**




- Імя, прозвішча ____________
- Дата нараджэння ____________
- Клас ____________
- Школа ____________
- Населены пункт ____________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________
- Прадмет, за які атрыманая адзнака ____________
- Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10") ____________
- Дата атрымання адзнакі ____________
- Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________
- Подпіс настаўніка ____________

Удзельнічаць у нашай акцыі адна асалода. Бацькі і настаўнікі маюць выдатны рычаг для падштурхоўвання, а лепшы вучань (вучні) атрымае каштоўны падарунак. Пра ход акцыі мы будзем рэгулярна паведамляць на старонках газеты і на нашым сайце www.rh.by.

Летась аналагічная акцыя доўжылася адну чвэрць. Планшэт атрымала **Юля Дземідовіч**, якая тады вучылася ў 8 "А" класе маладзечанскай СШ №5. А 5 "В" клас маладзечанскай гімназіі-каледжа мастацтваў схадзіў у піцэрыю.

Былі і сувенірныя падарункі ад рэдакцыі.

### Планшэт – лепшаму вучню

Лепшы вучань (вучні) па суме набраных балаў за навучальны год атрымае ад рэдакцыі планшэт.

Лепшы клас – паход у піцэрыю.

Па выніках чвэрцяў рэдакцыя адзначыць лепшых вучняў у гэтых чвэрцях. Яны атрымаюць ад рэдакцыі фірменную сумку-партфель (для папер ці ноўтбука).

Акцыя стартуе сёння (прымаюцца бланкі з адзнакамі ад 1-га верасня і пазней), працягнецца да 21 мая.

### Удзел у акцыі

У кожным нумары ў газеце будуць размяшчацца спецыяльныя бланкі для ўдзельнікаў акцыі "Дзясятачка". Яго запаўняе вучань любой са школ ці гімназій Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Мядзельскага, Валожынскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якому на момант атрымання адзнакі споўнілася 12 гадоў, ці яго бацькі.

У бланк уносяцца звесткі аб адной атрыманай адзнацы, роўнай 9 ці 10 балам, па любым школьным прадмеце за перыяд ад 1 верасня 2017 года да 16 мая 2018 года. Бланкі прымаюцца да 12:00 21 мая. У гэты ж дзень рэдакцыя назаве таго (тых), хто атрымае планшэт.

Планшэт атрымае вучань (вучні), які набярэ максімальную колькасць балаў, атрыманых сумiраваннем адзнак з запоўненых па правілах бланках за ўвесь перыяд вучобы ад 1 верасня да 16 мая. Пры роўнай колькасці балаў каштоўны падарунак (падарункі) уручаецца таму, у каго больш 10-бальных адзнак (звесткі з бланкаў).

Фірменны партфель атрымае вучань (вучні), які набярэ максімальную колькасць балаў, атрыманых сумiраваннем адзнак з запоўненых па правілах бланках за перыяд адпаведнай чвэрці. Пры роўнай колькасці балаў каштоўны падарунак (падарункі) уручаецца таму, у каго больш 10-бальных адзнак (звесткі з бланкаў).

Паход у піцэрыю рэдакцыя арганізуе для класа (класаў), вучні якога набяруць максімальную колькасць балаў, атрыманых сумiраваннем адзнак вучняў гэтых класаў. Пры роўнай колькасці балаў паходам у піцэрыю ўганаруецца клас (класы), вучні якога атрымалі больш 10-бальных адзнак.

Усе звесткі аб адзнаках рэдакцыя бярэ з запоўненых па правілах бланках.

Копіі бланкаў рэдакцыя не разглядае. Звесткі аб адной адзнацы могуць быць унесены толькі ў адзін бланк.

Запоўніце бланк з нумара "РГ", дайце на подпіс настаўніку і дашліце яго ці прынясіце ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты".

Вучням – поспехаў у вучобе, настаўнікам – добрых вучняў!

**Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ "Тройка", 5-ы паверх). Калі будзеце дасылаць поштай, зрабіце на канверце пазнаку "10-ка".**

"Рэгіянальная газета".

# Колькі каштуе апрануць сям'ю на восень

сярэдняя цана

Майка — 30 руб.
Шапка — 20 руб.
Світар — 40 руб.
Штаны — 50 руб.
Штаны — 40 руб.
Боты — 150 руб.
Боты — 80 руб.
Сукенка — 60 руб.
Паліто — 130 руб.
Світар — 40 руб.
Куртка — 60 руб.
Боты — 170 руб.

АГУЛЬНАЯ ЦАНА: 870 руб.

Крыніца: ГУМ. Інфаграфіка Кірыла СТАСЕЛЬКІ.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.09 | 14.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9242 | **1,9392** |
| Еўра | 2,2960 | **2,3219** |
| Злоты, 10 | 5,4101 | **5,4288** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3543 | **3,3594** |
| Грыўня, 100 | 7,4036 | **7,4327** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **6.09** | **13.09** |
| Еўра | 2.2800/2.3000 | **2.2900/2.3150** |
| Долар ЗША | 1.9200/1.9350 | **1.9250/1.9400** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **6.09** | **13.09** |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,98** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,10** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Селядзец, 1 кг | 3,60 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,70 | **1,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **2,00** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,20 | **1,30** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,10 | **2,10** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,93** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,89 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | **5,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Морква, 1 кг | 0,79 | **0,70** |
| Кабачкі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,95 | **3,81** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **0,69** |
| Памідоры, 1 кг | 1,10 | **1,20** |
| Агуркі, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| Перац, 1 кг | 1,50 | **1,40** |
| Кавун, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,49 | **3,40** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Ківі, 1 кг | 4,95 | **4,50** |
| Персікі, 1 кг | 2,89 | **2,49** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Слівы, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Бананы, 1 кг | 1,69 | **1,89** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,39 | **1,29** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **1,69** |
| Грушы, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |

## У пошуку самай актуальнай інфармацыі ўсе дарогі вядуць у "Рэгіянальную газету"

Рэгіянальная газета

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце.

Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі, на тры месяцы – 9 рублёў.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 9 рублёў, на тры месяцы – 27 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

Цана са скідкай на месяц для індывідуальных падпісчыкаў роўная **2,40** рубля, для ведамасных – **8,29**.

## Міліцыя будзе лавіць парушальнікаў на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі АУСТ ад 12 да 16 верасня праводзіць асноўны этап спецыяльнага комплекснага мерапрыемства "Бяспека". Задача мерапрыемства – папярэджанне пераходу чыгункі ў неналежных месцах, парушэнне праезду чыгункі. Таксама звернуць увагу на нецвярозых каля аб'ектаў чыгункі.

Мерапрыемства ладзяць сумесна з Маладзечанскай ДАІ.

За праход чыгункі ў неналежных месцах парушальнікі прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці, ім пагражае штраф ад 0,2 да 2 базавых велічынь (ад 4 рублёў 60 капеек да 46 рублёў).

За парушэнне правілаў пераезду чыгункі пагражае штраф ад 2 да 4 базавых велічынь (ад 46 да 92 рублёў).

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ,**
**інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ.**

## 37 спраў на следчага: як працуе маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта

МАЛАДЗЕЧНА

Сёння ў раённым аддзеле Следчага камітэта працуе 38 следчых.

Усе кіраўнікі камітэта, а іх шэсць, раней працавалі ў сістэме папярэдняга расследавання органаў унутраных спраў і пракуратуры. Яны прыйшлі ў аддзел ад дня яго заснавання – 12 верасня 2011 года.

Ад пачатку 2017 года следчыя працавалі з 1384 крымінальнымі справамі. Па 521 з іх папярэдняе следства скончылі, 483 перадалі ў пракурору. На кожнага следчага прыходзіцца амаль 37 крымінальных спраў.

Калі скласці ўсе матэрыяльныя страты, што нанеслі злачынцы, атрымаецца 237 800 рублёў. Большую палову гэтых грошай пацярпелым вярнулі.

Кожныя суткі на Маладзечаншчыне працуе следча-аператыўная група, куды ўваходзяць тры следчыя з маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта і супрацоўнікі РАУС.

**Юры БАГУШЭВІЧ,**
**старшы следчы маладзечанскага РАСК.**

## Маладзечанская міліцыя шукае жыхара Вілейшчыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі РАУС шукае 44-гадовага Алега Іванова, які знік без вестак.**



Мужчына жыў на Вілейшчыне ў Навасёлках, на вуліцы Цэнтральнай, 1.

3 верасня ён сышоў з дому і да гэтага часу яго месцазнаходжанне невядомае.

На выгляд мужчыну 43 гады, рост 170 сантыметраў, сярэдняга целаскладу. Твар авальны, смуглявы, вочы карыя, валасы цёмныя, кароткія.

На правым прадплеччы і правай назе каляровыя татуіроўкі.

Быў апрануты ў спартыўную шэра-белую куртку, цёмныя спартыўныя штаны, чорную тэніску, красоўкі.

Грамадзян, якім нешта вядома пра месцазнаходжанне Алега Іванова, просяць патэлефанаваць па нумарах: **8-0176-770312, 8-0176-771656, 8029-5464044 або 102.**

**Сяргей АПАНАСЕВІЧ,**
**оперупаўнаважаны вышуковай групы аддзела крымінальнага вышуку.**



Фота Drive2.ru

Паскакаць па машыне прапанавала дзяўчына з кампаніі, хлопец паскакаў "на слабо" і атрымаў судзімасць. Фота мае ілюстрацыйны характар.

# "На слабо" скакаў па чужой машыне

## 9-класніка асудзілі за "красаванне" перад сябрамі

АСТРАВЕЦ

**За юнацкае свавольства 15-гадовы падлетак атрымаў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на год з адтэрміноўкай на год.**

Здарэнне адбылося каля 20 гадзін 19 мая ў Варнянах. У той дзень 15-гадовы школьнік С. пасля заняткаў паехаў дадому, паабедаў, пераапрануўся і паехаў на школьны стадыён. Там разам з сябрамі малады чалавек звычайна гуляў у футбол. У той дзень у кампаніі з С. былі і хлопцы, і дзяўчаты.

Каля 20 гадзін маладыя людзі вырашылі разыходзіцца, але спачатку схадзіць у магазін па семкі. Алкаголь С. у той дзень не ужываў.

Каля магазіна стаяў аўтамабіль. Адна з дзяўчат сказала: "А слабо пераскочыць праз машыну?". Іншыя сябры з кампаніі падтрымалі гэту ідэю.

С. захацеў паказаць, што яму "не слабо", разбегся і, не разлічыўшы сілы, заскочыў на багажнік, прабегся па аўто, скочыў на дах, з яго на капот, а пасля на зямлю. Ад гэтага спрацавала сігналізацыя, і школьнікі пачалі разбягацца ў розныя бакі.

Хлопец патлумачыў, што не імкнуўся пашкодзіць машыну, хацеў проста пакрасавацца перад сябрамі. А пераскочыць аўто збоку у той момант не падумаў.

С. пабег дадому. Прыкладна праз гадзіну пазваніў адзін з сяброў, сказаў, што прыязджала міліцыя. Хлопец жыве з бабуляй, якой спачатку нічога пра здарэнне не казаў. Аднак калі прыехалі міліцыянеры, ва ўсім прызнаўся.

Падчас допыту школьнік патлумачыў:

> **"Віну прызнаю цалкам, разумею, што зрабіў дрэнна і што за гэта мяне могуць нават пасадзіць, але ў той момант я проста не падумаў пра наступствы. Наконт здарэння я размаўляў з гаспадыняй аўтамабіля Насцяй, прасіў прабачэння".**

Машына належыць 30-гадовай жанчыне, якая на сваім "Фольксвагене-Пола" прыехала да маці. Каля магазіна прыпаркавала аўто і пайшла ў краму.

Праз некаторы час пачула сігналізацыю. Выйшла з магазіна і ўбачыла, што адваліўся плафон асвятлення салона, умяціну на кузаве. Пра здарэнне паведаміла ў міліцыю. Шкоду ацанілі на агульную суму 1 123 рублі.

Суд прызнаў С. вінаватым у дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак і суправаджаюцца пашкоджаннем чужой маёмасці (хуліганства).

Яму прызначылі пакаранне – пазбаўленне свабоды на год, пакаранне адтэрміналі на год.

**Дзмітры БАГДАНОВІЧ,**
**памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

НАВІНЫ

## Мікрааўтобус насмерць збіў пешахода

ВАЛОЖЫН

У Валожынскім раёне мікрааўтобус збіў насмерць мужчыну.

Аварыя адбылася 10 верасня каля 21:20 на неасветленым участку аўтадарогі М-6 Мінск-Гродна каля вёскі Яршэвічы. Кіроўца аўто "Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар" збіў мужчыну, які пераходзіў дарогу па пешаходным пераходзе.

Пешаход памёр на месцы. Ён не быў пазначаны святлоадбівальнымі элементамі.

## Згарэлі дзве жанчыны

МЯДЗЕЛ

Ноччу 12 верасня паступіла паведамленне аб пажары жылога дома ў вёсцы Баяры Мядзельскага раёна. Пасля тушэння знайшлі целы дзвюх жанчын.

У доме жылі састарэлая жанчына і яе сын з жонкай. Напярэдадні там распівалі спіртныя напоі і курылі. Калі пачаўся пажар, мужчына паспеў выйсці з дома.

Яго старэнькая маці і жонка загінулі.

Для ўстанаўлення прычын узгарання прызначаны шэраг экспертыз, у тым ліку пажарна-тэхнічная. Па выніках правядзення судова-медыцынскага даследавання будзе вядомая дакладная прычына смерці загінулых.

**Паводле БелТА.**

## Хакеісты пабіліся на дзіцячым турніры

МАЛАДЗЕЧНА

Дзве масавыя бойкі ўчынілі юныя хакеісты ў матчы за трэцяе месца на дзіцячым турніры ў Маладзечне, у якім сустракаліся мясцовыя дынамаўцы і наваполацкі "Хімік".

Першая бойка адбылася ў трэцім перыядзе. Калі навапалачане прапусцілі дзясятую шайбу і лік стаў 10:4 на карысць гаспадароў, адзін з гульцоў гасцей напаў на хлопца, які забіў гол.

Пазней да бойкі далучыліся астатнія гульцы, якія знаходзіліся на пляцоўцы. Дзяўчаты-суддзі, што абслугоўвалі сустрэчу, з цяжкасцю супакоілі юных хакеістаў.

**Паводле tut.by.**


Фота Наталлі ТУР.

Марына Ганчарова і юныя выратавальнікі правялі ўрок бяспекі для першакласнікаў 10-й гімназіі.

# Чаму ў пажарных машына чырвоная?

## І іншыя наіўныя пытанні першакласнікаў да выратавальнікаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Для першакласнікаў 10-й гімназіі навучальны год яшчэ толькі пачаўся, а да іх на ўрок ужо завіталі юныя выратавальнікі, каб нагадаць, што трэба рабіць, калі раптам здарыцца пажар, ды і проста весела і з карысцю пабавіць час.**

Юныя выратавальнікі разам са старшым інспектарам групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Марынай Ганчаровай** паказалі першакласнікам адну з серый мультсерыяла "Чароўная кніга МНС".

У гэтым мультсерыяле шкадлівы воўк трапляе ў розныя небяспечныя сітуацыі, а мудры бабёр са сваімі сябрамі зайчыкам і куранём пры дапамозе чароўнай кнігі МНС дапамагаюць воўку разабрацца ў правілах пажарнай бяспекі.

Мульцік ідзе пяць хвілін, дзеянне развіваецца дынамічна, таму такія пяціхвілінкі можна дзецям паказваць і дома.

Затым дзяўчынкі і хлопчыкі спаборнічалі ў тым, чыя пажарная машына даедзе хутчэй, патрэніраваліся ў тым, як неабходна пакінуць памяшканне, калі ў ім здарыцца пажар.

Першакласнікі закрывалі рукавом твар і гуськом выходзілі з класа.

Марына Ганчарова пры гэтым расказвала, што пры пажары кісларод збіраецца ўнізе, таму трэба да выхаду прасоўвацца на кукішках.

А пасля інспектар вучыла дзяцей званіць па нумар 112. Здавалася б, што тут такога, набірай нумар і крычы: "Пажар!".

А не, трэба назваць сябе і дакладны адрас, куды ехаць пажарнай машыне.

Ні для каго не сакрэт, што ў шэсць гадоў усе дзеці тыя яшчэ чамучкі, таму, калі Марына Ганчарова загаварыла пра пажарныя машыны, у яе спыталіся:

**– А чаму пажарная машына чырвоная?**

– Машына выратавальнікаў павінна мець яркі колер, каб іншыя машыны, якія едуць па дарозе, бачылі, што машына спяшаецца на пажар, ёй трэба саступіць дарогу.

**Там, куды прыязджае машына, бывае шмат дыму, і чырвоную машыну ў дыме лягчэй заўважыць. Для гэтага ў пажарных машынах ёсць яшчэ і маячкі.**

**– А пажарныя баяцца пажару?**

– Выратавальнікі не маюць права баяцца. Калі ён выбраў гэту прафесію, значыць ён ведаў, куды ідзе працаваць. Таму баяцца тут няма як.


Фота Наталлі ТУР.

Падчас урока бяспекі маленькія чамучкі навучыліся правільна выклікаць службу 101.

**– А чаму выратавальнікі носяць зялёную форму, а на пажары ездзяць у чырвонай? Чаму не ў вясёлкавай?**

– Форма ў пажарных, насамрэч, не чырвоная, а аранжавая. А яшчэ ёсць чорная з яркімі салатавымі ўстаўкамі. Яна таксама такая яркая, каб у дыме пажарны быў заўважны. А чаму не вясёлкавая?

**Не ведаю, трэба прапанаваць нашаму кіраўніцтву, магчыма, у вясёлкавай форме пажарныя былі б яшчэ больш заўважныя.**

**– Чаму вядро ў бабулі можна паставіць на зямлю, а вядро для тушэння пажараў не?**

– А вы заўважалі калінебудзь, як цяжка выцягваць з вады звычайнае вядро?

**А вось вядзерца для тушэння пажару дзякуючы сваёй форме лёгка ўваходзіць у ваду і гэтак жа лёгка выходзіць з яе.**

**– Скажыце, а калі будзе гарэць лес і ў ім будзе стаяць конь, вы яго выратуеце?**

– Канешне, выратавальнікі нікога ў бядзе не пакідаюць. Але такая сітуацыя наўрад ці можа здарыцца, бо жывёлы – разумныя істоты. Яны ведаюць, што ад пажару трэба ўцякаць. Таму асноўная задача выратавальнікаў – не дапусціць таго, каб агонь распаўсюдзіўся на вялікія плошчы, каб жывёлы, што жывуць у лесе, маглі адбегчы на бяспечную адлегласць ад агню.

**– А што было б, каб не было пажарнай службы?**

– А давайце разам адкажам на гэта пытанне, – прапанавала Марына Ганчарова.

І ўсе дзеці наперабой, але вельмі слушна адказалі, што, калі б знікла служба выратавання 101, то:

**– Была б бяда-а-а-а.**

Наталля ТУР.

# Як будуць выплачваць прафесійныя пенсіі пасля павышэння пенсійнага ўзросту

**Сёлета ад 1 студзеня агульнаўстаноўлены пенсійны ўзрост стаў павялічвацца на шэсць месяцаў штогод, пакуль мужчына не дасягне 63 гадоў, а жанчына – 58.**

Прафесійныя пенсіі будуць прызначацца і выплачвацца з улікам указаных змяненняў.

**Віды прафесійных пенсій**

| датэрміновыя | дадатковыя |
|---|---|
| Умовы для атрымання:<br>– наяўнасць неабходнага прафесійнага стажу (з асаблівымі ўмовамі працы);<br>– дасягненне патрэбнага ўзросту;<br>– пастаяннае пражыванне ў краіне. | Прызначаецца застрахаваным асобам, якія дасягнулі агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту. |
| **Як вылічваецца памер датэрміновай прафесійнай пенсіі**<br>Пенсійныя зберажэнні дзеляцца на колькасць месяцаў датэрміновага пенсійнага перыяду застрахаванай асобы.<br>Калі датэрміновы пенсійны перыяд застрахаванай асобы менш за 12 месяцаў, датэрміновая прафесійная пенсія ўстанаўліваецца ў памеры, які не перавышае двухразовую велічыню бюджэту пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае на дату вылічэння датэрміновай прафесійнай пенсіі. | Перыяд выплаты вызначаецца зыходзячы з сумы пенсійных зберажэнняў, якія ёсць на прафесійнай частцы асабовага рахунку на дзень назначэння пенсіі і выплачваецца ў памеры бюджэту пражытковага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае ў месяцы, за які яна выплачваецца.<br>Пры вызначэнні права на дадатковую прафесійную пенсію таксама будзе ўлічвацца павышэнне пенсійнага ўзросту. Напрыклад, мужчына 15 красавіка 1957 года нараджэння набывае права на дадатковую прафесійную пенсію 15 кастрычніка 2017 года па дасягненні 60 гадоў і 6 месяцаў (пры наяўнасці на прафесійнай частцы яго асабовага рахунку пенсійных зберажэнняў). |
| Памеры пенсій устанаўліваюцца зыходзячы з сумы пенсійных зберажэнняў – сродкаў, якія фарміруюцца для выплаты прафесійнай пенсіі застрахаванай асобе з унёскаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне і даходаў ад іх размяшчэння.<br>Застрахаваным асобам даецца права выбраць паміж датэрміновай і дадатковай прафесійнай пенсіяй. | |

Прызначае і выплачвае прафесійныя пенсіі раённы аддзел Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва па месцы жыхарства альбо фактычнага пражывання застрахаванай асобы на падставе заявы аб прызначэнні (аднаўленні) датэрміновай прафесійнай пенсіі альбо заявы б прызначэнні дадатковай прафесійнай пенсіі.

**Больш падрабязная інфармацыя па адрасе: Маладзечна, Машэрава, 19 альбо па тэлефонах: (80176) 74-63-17, 74-62-14 ці на сайце www.ssf.gov.by.**

Паводле Маладзечанскага райаддзела Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**З 80-годдзем!**
Віншуем нашага сябра
**Валерыя Паўлавіча КАЧАРГІНА!**



Жадаем здароўя, даўгалецця, аптымізму.
**З вялікай павагай Анатоль і Ірына Станецкія з Лебедзева.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- ДЭУ-Экспера, 1995 г.в., Масквіч 412, 1991 г.в. Т. (8-01771) 24936, МТС 5509148, МТС 2768546.
- Мерсэдэс МВ-100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- **ПЕЖО-5008, 2013 г.в., МІНІВЭН, З ГЕРМАНІІ. Т. (8-029) 6372633.***
- Рэно-19, дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- ФВ-Вента, 1996 г.в., 1,9Д, па запчастках. Т. (8-029) 6232553.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Камплект летняй гумы на літых дысках для Пежо-405 R14. Т. (8-029) 5037346.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар б/у. Т.(8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

- **КУЗАЎНЫ РАМОНТ АЎТО** ад зваркі да паліроўкі. Высокая якасць і прыемныя цэны. ІП Шыцік П. П. УНП 191477481. Т. (8-044) 7640814, (8-0176) 703031.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

Прадам **ДАЧУ**
паблізу Вілейкі, Плікавічы.
Участак 10 сотак.
4 км да вадасховішча.
Т. (8-029) **651 20 36**.

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы 21,6/12,2/5,2 кв. м. Т. (8-029) 7558660, (8-0176) 778970.*
- 3-пакаёвую кватэру ў а.г. Залессе, 10000 руб. Т. (8-029) 6125469.*
- Гараж ГБК-Ізбіна, побач з АЗС, 5000 руб. Т. (8-029) 5761877.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Кастрычніцкая, 38; 60 000 руб. Т. (8-029) 2375721.
- Дом у в. Камарова Мядзельскага раёна. Т. Вэлком (8-029) 1707419.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,16 з добрым рамонтам. Т. (8-029) 1590102.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 9-56, 5 паверх, цана дагаворная. Т. (8-029) 7685126, (8-029) 2534684.*

**ПОМОГИТЕ КОТУ вернуться домой!**



**Нашедшему – награда! Готовы выкупить!**
Кот крупный, серый, пушистый, большая голова, белая манишка, узкая белая полоска на носу, белые "носочки", глаза зеленоватые. Пугливый (на улице не бывал). Случайно выпустили **31.08.2017 из квартиры по ул. Будавников (Строителей), г. Молодечно,** район магазинов "9-этажка", "Белый каприз".
МТС (8029) **872-93-63**, **872-93-64**,
8(176) **55-42-49**.

- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Машэрава, 2, 1/3 паверх. 35/19/11 кв. м з рамонтам. Тэрмінова! Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, еўрарамонт. Магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*
- Дом драўляны з участкам 15 сотак у Мядзеле, 200 м ад возера Мястра. Т. Вэлком (8-029) 6111663.*
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

**Вечерний Бобруйск**
**Вашы аб'явы па продажу ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!**

- Дом жылы ў в. Хатуцічы Лебедзеўскага с/с, смаргонскі накірунак. Ёсць хлеўчык, калодзеж. Т. (8-029) 8624022.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Савяцевічы, д.43 Валожынскага раёна з мэбляй. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 3007271.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом цагляны ў вёсцы М. Запруддзе Валожынскага раёна, 0,25 га. Цана 2480.*
- Участак 0,2 га, на беразе ракі Нарачанка, у в. Кузьмішкі Вілейскага р-на. На ўчастку ёсць дом, калодзеж, дзве гаспадарчыя пабудовы, электрыфікацыя 220. Поўны пакет дакументаў. Т. (8-029) 1748084.*

### КУПЛЮ

- Дом у вёсцы, да 25 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 8726517.

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой**
- **Замена масла**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

### МЯНЯЮ

- 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на дом. Т. (8-029) 9267289.

### ЗДАМ

- 3-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, раён міліцыі. Т. (8-029) 2725907, (8-029)Т. (8-029) 2725907, (8-029)57930.
- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*
- Пакой у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5019550.*
- Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.
- 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 733643.*

- **Компьютерная диагностика и ремонт электрооборудования** любой сложности;
- **Решение проблем:** клапан ЕГР, катализатор, сажевый фильтр;
- **Проверка и регулировка CO, CH;**
- **Заправка и ремонт кондиционеров;**
- **Замена ГРМ;**
- **Диагностика и ремонт подвески;**
- **Запчасти** в наличии и под заказ.

Т. Велком **(8-044) 741-91-83**, МТС **(8-029) 779-93-27**.
**Шиномонтаж** Т. **(8-044) 533-32-66, (8-029) 769-73-09.**
ОДО «Игл» УНП 690603198

# АККУМУЛЯТОРЫ

ДЛЯ АВТОМОБИЛЕЙ

ИСТОЧНИКОВ ПИТАНИЯ

СИГНАЛИЗАЦИЙ

**ПРОДАЁМ НОВЫЕ И ПОКУПАЕМ СТАРЫЕ**

ШИРОКИЙ ВЫБОР
- ✔ моторных, гидравлических, индустриальных масел,
- ✔ смазки, реагент AdBlue разливной,
- ✔ антифризы, техжидкости,
- ✔ запчасти к иномаркам




ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ

ТЕЛ. (0176) 58-12-48 (029) 63-63-166 www.batrix.by 

ООО "Батрикс"УНП 691893243

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Мерсэдэс-Бэнц-Спрынтар суцэльнаметалічны да 2-х тон, даўжыня 4,20 м, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык О.В. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Абітурыент ! Падрыхтоўка да ЦТ: матэматыка, фізіка. Заняткі з вучнямі сярэдняга звена. Якасць падрыхтоўкі высокая. Т. (8-029) 5586664, (8-029) 6325077, (8-025) 9500648.*

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Біялогія і хімія. Падрыхтоўка да ЦТ, запаўненне прабелаў. Індывідуальны падыход да навучання. Тэлефанаваць да 17:00 да 21:00. Т. (8-029) 8610280.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт ноўтбукаў і камп'ютараў любой складанасці. ПУП "Рункомп" УНП 6902552869. Т. МТС (8-033) 3788997, (8-029) 3788997.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ**, усе віды. ІП Рудаў Е.А. УНП 692014489 Т. (8-033) 6322069, (8-044) 7149989.*

• Тратуарная плітка, борт і іншае. Укладка. Дастаўка. ІП Юрэвіч У.У. УНП 691505215. Т. (8-044) 7168663, (8-029) 8761382.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА.** Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), імітацыя бруса, **ПІЛАМАТЭРЫЯЛЫ** і інш. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла (кірпіч) вогнетрывалая, гліна, кафля, плітка, дзверцы пячныя паддувальныя, каласнікі, духоўкі, печка-буржуйка з кругамі. Цэны дагаворныя. Т. (8-0176) 742790, МТС (8-033) 3501082.

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Зернедрабілку пад ВОМ трактара. Т. (8-029) 9408541.

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• Трактар, сані, павозка на драўляным ходу. Цана дагаворная. Т. (8-029) 8730880.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

АНТЕННЫ СПУТНИКОВЫЕ
-5% в сентябре (8029) 762-78-98 332-67-79
ИП Емельянов А.В. УНП 600361413

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

**Мэбля**

• Мяккі куток, тры прадметы, 400 руб. Магчыма дастаўка. Шафа 3-створкавая, дзверы 2 шт., б/у. Цана дагаворная. Т. (8-0176) 742790, МТС (8-033) 3501082.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараніна жывой вагой – 4,5 руб., мясам – 8,5 руб. Т. (8-029) 6769359. Віталь.

• Карова 8 гадоў, ацёл у канцы снежня. Т. (8-029) 2725536.

• Перапеляняты, яйкі інкубацыйныя, яйкі дыетычныя. Т. (8-029) 9384594.

• Шчаня ёркшырскага тэр'ера. Т. (8-029) 1629761.

• Цялушка цёмная, торг. Т. Вэлком (8-044) 5586979.*

**Іншае**

• Батарэі чыгунныя б/у. Т. (8-029) 6139537.*

• Бочкі 200 л з-пад алівы, б/у, метал, дзве пробкі, 20 руб. Т. (8-033) 3133711.*

• Бульба буйная і дробная. Дастаўка. Т. (8-029) 1447014.*

• **КУРТКАМАНІЯ Ў МАГАЗІНЕ "АДЗЕННЕОПТ": КУРТКІ ад А да Я**, для ўсёй сям'і, асенняя ад 33 рублёў, а зімовыя ад 46 рублёў, таксама джынсы ад 26 рублёў, шкарпэткі 50 капеек, джэмперы і кардыганы ад 20 рублёў, шапкі ад 2 рублёў і іншае. г. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15-а ў "Доме быту". ІП Тарыма А.С. УНП 691899969

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

**Антыкварыят**

• Антыкварыят, статуэткі, гадзіннікі, грамафоны, карціны, мэблю і іншыя старажытныя рэчы. Т. МТС (8-033) 9030854, Вэлком (8-029) 1447482.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лося, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

### ІНШАЕ

• Шукаю спадарожніцу 45-60 гадоў для адпачынку ў кастрычніку ў Егіпце. Т. (8-029) 3464285.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель кат. Е для міжнародных перавозак. ТАА "Форшпан" УНП 690015999 Т. (8-044) 7196323, (8-029) 6537186.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*

• Шукаю працу печніка.Т. (8-025) 6035930.*

---

На постоянную работу требуется
**водитель** экскаватора
*Опыт работы*
*Оплата труда достойная*
Тел. (8-029) **624 79 12**
ЧУП «Мол Агрокорм» УНП 690305763

---

Организации **требуются строители** следующих специальностей:
• **плиточник-облицовщик**
• **маляр-штукатур**
• **кровельщики**
*Жильё предоставляется*
Телефон (8033) **157-88-86**
ООО "Альбивита" УНП 192006488

---

**ОКНА ПВХ**
металлические, межкомнатные двери
ОКНОГРАД
**РАССРОЧКА до 12 месяцев СКИДКИ до 50%**
**Срок действия акции ограничен**
Тел. (8029) **110-63-91**, (8033) **351-68-39**
ООО "Окноград" УНП 690639306

---

**ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ ШВЕЙ**
**для пошива верхней женской одежды – пальто, куртки, плащи**
- Пятидневная рабочая неделя
- Полный соц. пакет
- Своевременная сдельно-премиальная оплата от **550 рублей**
- Три месяца доплата за обучение

Тел. (8-029) ☎**181-53-22** Елена
ЧТПУП «Твин Тип» УНП 190937032

---

■ **ПЕЧИ ДЛЯ БАНИ**
■ **БАКИ**
■ **ЕМКОСТИ** для воды
*ИЗ НЕРЖАВЕЮЩЕЙ СТАЛИ*
**АРГОННАЯ СВАРКА**
**www.svarimvse.by**
Тел. **8-044-743-59-27**
ИП Нестерович УНП 691171264

---

• **ТРУБЫ**
• **уголки**
• **швеллеры**
• **арматура**
• **листы**
• **сетка рабица**
ИЗГОТОВЛЕНИЕ МЕТАЛЛОКОНСТРУКЦИЙ. РЕЗКА. Доставка
***Аренда автокрана***
*г. Молодечно, ул. Рабочая, 8а*
(0176) 50-56-53
58-04-76 (факс)
(029) 196-90-23 (-43) (-53)
www.metallkontrakt.by/
ООО «Молметаллконтракт» УНП 691398156

---

КУПЛЮ
**коня, КРС и др.**
а также вынужденный убой.
Заберу личным транспортом.
Тел. (8-044) **777-44-48**
(8-029) **393-92-56**
ИП Жамойтин Д.В. УНП 590191739

---

**ОКНА ПВХ ДВЕРИ**
- балконные рамы
- отделка откосов
- москитные сетки
**НИЗКИЕ ЦЕНЫ!**
**ОТЛИЧНОЕ КАЧЕСТВО!**
**ГАРАНТИЯ 2 ГОДА!**
**Vel. (8-029) 384-41-92**
**MTS (8-033) 374-41-30**
ИП Бураковский УНП 691518946

---

ОАО «Молодечненский завод металлоконструкций»
**СРОЧНО ТРЕБУЮТСЯ НА РАБОТУ:**
✓ **ЭЛЕКТРОСВАРЩИКИ** на автоматических и полуавтоматических машинах не ниже 4-го разряда
✓ **СЛЕСАРЯ** по сборке металлоконструкций не ниже 4-го разряда
✓ **МАШИНИСТЫ КРАНА** не ниже 3-го разряда
Звонить по телефону **(8-0176) 58-02-46**
УНП 600136845

---

**БУРЕНИЕ скважин на воду**
Качество/Договор/Гарантия
Тел. (8-029) **133 65 74**
**844 65 74**
ИП Гуринович А.В. УНП 691501462

---

**ОКНА ПЛАСТМАРКЕТ**
СКИДКА 30%,
РАССРОЧКА без % от 4 до 12 месяцев,
пенсионерам и многодетным семьям ПОДАРКИ.
8 (029) **132 05 81**,
8 (033) **611 65 98**,
8 (0176) **50 32 26**.
УНП 690631374

---

**ОКНА, ДВЕРИ**
**балконные рамы**
ИЗ ПЛАСТИКА И АЛЮМИНИЯ
• **Жалюзи**
• **Москитные сетки**
• **Отделка откосов**
Изготовление
Установка
Договор
Гарантия
**Вилейка** (8-029) **615-69-95**
(8-033) **320-51-80**
ИП Чижевский А.И. УНП 690572888

---

**ОТДЕЛКА ДОМОВ САЙДИНГОМ**
➤ ВОДОСТОК
➤ ЗАМЕР
➤ КОНСУЛЬТАЦИЯ
➤ КРОВЕЛЬНЫЕ РАБОТЫ
и другое
***Возможна доставка***
При монтаже сайдинга – утепление в подарок
Тел. (8-029) **766 56 48** МТС,
(8-029) **102 22 32** Велком
ИП Борисевич А.П. УНП 690686296

---

**БЕТОН**
**РАСТВОР**
**Щебень, гравий, песок**
**ПГС** (доставка)
**Услуги фронтального погрузчика**
(погрузка, планировка, котлованы)
Тел. **8-044-749-00-56,**
**8-029-749-00-65.**
probeton.by
ООО "Алисан-Групп" УНП 690551451

---

**Спутниковое и цифровое ТВ**
**Все виды услуг**
Тел. (8-029) **561 39 72**
ИП Новик С.С. УНП 691398368

---

**Услуги катафалка**
+10 пассажиромест
Любая помощь при захоронении
(8029) **881 36 57**
(8044) **790 36 57**
ИП Кондратович А.Д. УНП 691886771

---

***Изделия из металла:***
навесы, калитки, мангалы, скамейки, оградки. **ЗАБОРЫ** из металлаштакета и металлапрофиля.
Вел (8-029) **384 41 92**
Мтс. (8-033) **374 41 30**
ИП Харчишин В.А. УНП 692014596

---

СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ ПРОДАЖА И РЕМОНТ
ГАРАНТИЯ ДО 3-х ЛЕТ
**ШВЕЙНЫЕ МАШИНЫ, ОВЕРЛОКИ,**
**ПАРОГЕНЕРАТОРЫ, КОМПЛЕКТУЮЩИЕ, ЗАПЧАСТИ, ИГЛЫ, НИТКИ, НОЖНИЦЫ**
ИП Битель И.И. УНП 600320450
**МОЛОДЕЧНО, Ф.СКОРИНЫ, 10А**
**(8-0176) 50-12-82, (8-029) 378-73-77**



Скрыншот кліпа.

Паводле кліпа, два лепшыя сябры закахаліся ў адну жанчыну. Яна доўга вагаецца, як быць. І толькі сэрца – лепшы дарачык, што рабіць і каго выбраць.

# Маладзечанца запрашаюць здымацца ў бандыцкіх фільмах

## Баксёр Аляксей Кудзін расказаў пра акцёрскі досвед

МАЛАДЗЕЧНА

**Акрамя выдатных здольнасцяў на баксёрскім рынгу шматразовы чэмпіён свету па тайскім боксе Аляксей Кудзін спрабуе сябе ў якасці акцёра.**

Першы раз спартсмен засвяціўся на тэлеэкране ў 23 гады, тады выканаў эпізадычную ролю ў ваенным фільме "Чаклун і Румба". Праз два гады зноў прапанавалі эпізадычную ролю ў ваенным серыяле "Снайпер: зброя адплаты". Цяпер на рахунку спартсмена эпізадычных ролі больш чым у дзесяці фільмах.

– Шмат запрашаюць здымацца ў кліпах, а таксама бандыцкіх фільмах, – усміхаецца Аляксей. – Аднак не заўсёды на гэта хапае часу. Калі ёсць перапынак паміж турнірамі, з радасцю прымаю прапановы. Кардынальная змена віду дзейнасці дапамагае разгрузіцца і адпачыць. Калі ж у жыцці ўсё аднолькавае, руціна з'ядае чалавека, нават любімая справа перастае прыносіць задавальненне.

Жонка спартсмена, **Таццяна**, падтрымлівае захапленне мужа: "Не ўсё ж жыццё на рынгу быць, трэба падумаць і пра іншы занятак".

### Здымаўся не за грошы, а дзеля цікавасці

Нядаўна маладзечанец зняўся ў першым кліпе паэткі і спявачкі **Таццяны Атрошанкі** на песню "Калі б проста". Падчас сумеснага свята спявачка прапанавала зняцца ў кліпе, спартсмен не адмовіўся. Пры гэтым працаваў не за грошы, а дзеля цікавасці.

– Чаму б не дапамагчы чалавеку, які імкнецца рэалізаваць сваю мэту, – разважае Аляксей. – Творчасць – гэта тая ж самая трэніроўка ў спартыўнай зале. Ты можаш прыйсці пазаймацца – і на гэтым усё. А можаш паставіць мэту, да якой будзеш імкнуцца і дасягаць розных вышынь. Першы спосаб значна прасцейшы – можна ў любы час кінуць. Другі – цярністы, бо трэба змагацца са сваімі слабасцямі, цярпець паразы. Тое ж і ў творчасці: проста спяваць – гэтага недастаткова, хочаш прабіцца – рухайся. Таму я цалкам падтрымліваю Таццяну, якая спрабуе новае і не шкадуе сіл.

> Здымкі кліпа каманда надоўга запомніць, бо адбываліся яны зімой, быў такі мароз і вецер – да касцей прабірала ўсіх.

– Менавіта падчас здымак кліпа зразумеў, што маю за маімі плячамі хоць і невялікі, але акцёрскі досвед, – расказвае маладзечанец. – Калі раней саромеўся камеры, цяпер зразумеў, што такое працаваць на яе. Падчас гэтай карціны не проста выконваў загады аператара, а глядзеў на сябе, нібы з боку, а ў некаторых момантах раіў, як лепш зняць.

### Марыць сыграць у гістарычным фільме

Спартсмен марыць сыграць у гістарычным альбо ваенным фільме. Аднак, калі прапануюць сыграць нацыста альбо чалавека, які здзекуецца з дзяцей, ніколі не пагодзіцца.

– Калі не было сваіх дзяцей, неяк спакайней глядзеў ваенныя фільмы, нават сцэны, у якіх катуюць дзяцей, – расказвае Аляксей. – Калі ж з'явіліся свае, то як бачу такія карціны, ажно сэрца сціскаецца. Неяк падчас здымак ваеннага фільма акцёр **Андрэй Федарцоў** расказваў, калі іграеш у доўгасерыйнай карціне, настолькі ўжываешся ў ролю, што часам і ў рэальным жыцці падобным чынам паводзіш сябе. Ой, не хацеў бы я такія пераўвасабленні адчуць на сабе, а тым больш перанесці ў сваю сям'ю.

Пакуль акцёрскую кар'еру Аляксею Кудзіну прыйдзецца прыпыніць, да канца года запланаваны тры турніры. А вось у студзені і лютым у спартсмена адпачынак. Калі ў вас ёсць цікавыя прапановы, маладзечанец адкрыты для іх.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92



Даша, Макар і Іван Байковы прыехалі паўдзельнічаць у конкурсе з аграгарадка Селішча, дзе яны жывуць з татам Максімам і мамай Алінай.





На фота зверху: Спявае Лёва Жарскі.
На фота знізу: "Не хачу збіраць бульбу!" – супраціўляўся маленькі Паша Плёска. Але мама Кацярына яму дапамагла.

# Жонкі забівалі цвікі, мужы прышывалі гузікі

## У Вязыні зладзілі раённы конкурс "Уладар сяла"

ВІЛЕЙКА

**9 верасня ў раённым конкурсе "Уладар сяла" ўдзельнічалі тры сям'і з Вілейшчыны: Жарскія з Людвінова, Плёскі з Нарочы і Байковы з Селішча.**

**Кацярына і Уладзімір Плёскі** і **Аліна** і **Максім Байковы** ў падобным конкурсе ўдзельнічалі ўпершыню. А вось у людвіноўскай сям'і **Юрыя** і **Вольгі Жарскіх** досвед удзелу ў такіх мерапрыемствах ёсць.

Сем'і паказалі творчыя візітоўкі, на выставах прадставілі свае захапленні і пачаставалі ўсіх самаробным печывам.

А пасля дэманстравалі ўменні, якія, на думку арганізатараў, неабходныя кожнаму вяскоўцу.

Дзеці збіралі бульбу ў кошыкі, таты запрагалі каня, мамы распрагалі. Найлепшы вынік у конкурсе з канём паказала сям'я Байковых. Муж запрог каня, жонка распрагла. На ўсё пайшло чатыры з паловай хвіліны. Гэта не дзіўна, бо ў Абадоўцах у сям'і Аліных бацькоў каня трымалі заўсёды.

Астатнім часу спатрэбілася больш. Жарскім – амаль шэсць хвілін, Плёскам – амаль дзевяць.

**– Оля, хамут! – падтрымліваў Юры Жарскі жонку Вольгу, калі тая распрагала каня.**

– Ну, калі ўжо можна будзе на коніку пакатацца? – хваляваўся маленькі **Паша Плёска**, пакуль тата запрагаў каня.

Галоўны "рэквізіт" конкурсу – конь аднаго з вязынскіх гаспадароў – усе запраганні-распраганні вытрымаў надзіва спакойна і мужна.

У конкурсе для дзяцей – збіранні бульбы ў кошыкі – вынік быў прадвызначаны. Натуральна, што перамагла тая сям'я, у якой больш дзяцей.

І пакуль мама Кацярына дапамагала збіраць бульбу маленькаму Паўлу, **Сняжана**, **Каця**, **Жэня** і **Лёва** з сям'і Жарскіх ужо аднеслі свой поўны кошык на фініш.

Сабраную бульбу трэба было абабраць. Гэту адказную місію ўсклалі на татаў. Першым справіўся Максім Байкоў.

А Юрыя Жарскага не задаволіў тупы нож, прапанаваны арганізатарамі. Па словах мужчыны, у іх на кухні такімі ніколі не карыстаюцца.

**Мужы з жонкамі разам насілі ваду і рэзалі дровы. А гузікі прышывалі і цвікі забівалі паасобку. Гузікі ўсклалі – на татаў, цвікі з малаткамі – на мам.**

А што рабіць мамам у той час, калі таты чысцяць бульбу? На думку арганізатараў, забіваць цвікі. З малатком лепш і хутчэй упраўлялася Аліна Байкова. На думку журы, якраз сям'я Байковых стала лепшай па выніках усіх конкурсаў.

Падчас музычных паўз выступалі артысты з Вязынскага і Селішчанскага сельскіх Дамоў культуры.

За ўсім назіралі нешматлікія гледачы. Надвор'е стаяла сонечнае, а ў вяскоўцаў шмат спраў у вераснёвы час.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Расклад руху цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін ад 16 верасня па станцыі Маладзечна

| Маладзечна-Гудагай | | | | Гудагай-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цяг-ніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № цяг-ніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6103 | 06:16 | 07:22 | **штодзённа** з прыпынкамі па станцыях Маладзёжны, Каменка | 6108 | 04:31 | 05:38 | **штодзённа** з прыпынкамі па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны, **далей да Мінска** |
| 6107 | 08:21 | 09:42 | **штодзённа** з Мінска | 6112 | 05:54 | 07:14 | **штодзённа** да Мінска |
| 6883 | 12:15 | 13:00 | **у рабочыя** да Смаргоні | 6116 | 08:21 | 09:28 | **штодзённа** з прыпынкамі па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны **далей да Мінска** |
| 6117 | 13:04 | 14:25 | **з Мінска па суботах, нядзелях** | 6884 | 10:14 | 11:34 | **штодзённа** |
| 6121 | 15:59 | 17:20 | **штодзённа** з Мінска | 6886 | 13:36 | 14:22 | **па рабочых днях** са Смаргоні |
| 6125 | 18:11 | 19:32 | **штодзённа** з Мінска | 6128 | 15:21 | 16:41 | **суб., нядзеля да Мінска** |
| 7035 | 19:31 | 20:39 | **штодзённа** Мінск-Маладзечна з прыпын. Мінск Паўночны, Ждановічы, Фестывальны, **далей да Гудагая** з прыпынкамі па станцыях, п.п Маладзёжны, Каменка | 6132 | 17:46 | 19:06 | **штодзённа да Мінска** |
| 6891 | 20:32 | 22:28 | **штодзённа** | 7036 | 20:17 | 21:30 | **штодзённа** з прып. па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны, **далей да Мінска** з прыпынкамі Фестывальны, Ждановічы, Мінск Паўночны |
| | | | | 6138 | 21:06 | 22:13 | **штодзённа** з прып. па станцыях, п.п.Каменка, Маладзёжны, **далей да Мінска** б/п Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка |

| Маладзечна-Ліда | | | | Ліда-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6261 | 08:38 | 11:37 | **штодзённа** | 6262 | 04:08 | 07:09 | **штодзённа** |
| 6263 | 12:36 | 15:28 | **у выхадныя** | 6264 | 08:40 | 11:45 | **штодзённа** |
| 6265 | 18:26 | 21:25 | **штодзённа** | 6266 | 12:19 | 15:19 | **у выхадныя** |
| 6267 | 20:39 | 23:37 | **штодзённа** | 6268 | 15:48 | 18:45 | **штодзённа** |

| Маладзечна-Крулеўшчына-Полацк | | | | Полацк-Крулеўшчына-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6626 | 08:57 | 11:17 Крулеўшчына | **штодзённа** 13:16 Полацк | 6622/6621 | 04:58 з Крулеўшчыны | 07:13 | **штодзённа** з Глыбокага ў 04:22 |
| 6684 | 12:41 | 14:55 | **у выхадныя** да Крулеўшчыны | 6683 | 15:16 з Крулеўшчыны | 17:43 | **у выхадныя** |
| 6676 | 16:14 | 16:48 | **у рабочыя** да Вілейкі | 6683 | 17:08 | 17:43 | **у рабочыя** з Вілейкі |
| 6630/6631 | 20:12 | 22:27 Крулеўшчына | **штодзённа** 23:10 Глыбокае | 6625 | 17:28 з Крулеўшчыны | 19:37 | **штодзённа** з Полацка ў 15:33 |

| Маладзечна-Мінск | | | | Мінск-Маладзечна | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № цягніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі | № цяг-ніка | Час адпраў-лення | Час пры-быцця | Даты руху, шляхі зносін, прыпынкі |
| 6102 | 04:17 | 06:01 | **б.п.** Селівонаўка | 6101 | 00:30 | 02:10 | **б.п.** Татарщызна, Селівонаўка |
| 6104 | 05:12 | 06:59 | | 6103 | 04:39 | 06:10 | **б.п.** Мінскае Мора, Крыжоўка, Зялёнае, Хмелеўка, Анусіна, Вязынка, Пралескі **да Гудагая** |
| 6106 | 05:32 | 07:19 | **па рабочых днях** | 6105 | 05:25 | 07:08 | |
| 6108 | 05:42 | 07:29 | **з Гудагая** | 6107 | 06:25 | 08:16 | **да Гудагая** |
| 6110 | 06:46 | 08:33 | | 6109 | 07:20 | 09:12 па выхадных у 09:24 | |
| 6112 | 07:29 | 09:18 | **з Гудагая** | 6113 | 08:50 | 10:36 | |
| 6114 | 08:59 | 10:47 | | 6115 | 09:50 | 11:36 | |
| 6116 | 09:31 | 11:10 | **з Гудагая** да ст. Алёхнавічы з усімі прыпынкамі, **далей па станцыях**, п.п Лябяжы, Масюкоўшчына | 6117 | 11:11 | 12:56 | **штодзённа**. **па суботах, нядзелях** да Гудагая |
| 6120 | 10:57 | 12:46 | | | | | |
| 6122 | 13:02 | 14:49 | | 6119 | 12:48 | 14:35 | |
| 6124 | 14:56 | 16:43 | | 6121 | 14:05 | 15:54 | **б.п.** Селівонаўка **да Гудагая** |
| 6126 | 16:12 | 17:59 | | 6123 | 15:40 | 17:27 | |
| 6128 | 16:45 | 18:33 | **штодзённа**, па вых. днях ідзе **са ст.Гудагай** | 6125 | 16:21 | 18:07 | **да Гудагая** |
| 6130 | 17:55 | 19:43 | | 7035 | 18:05 | 19:27 | Мінск-Маладзечна **з прыпынкамі** Ждановічы, Мінск Паўночны, Фестывальны, **далей да Гудагая**, з прыпынкамі па станцыях і п.п. Маладёжны, Каменка |
| 6132 | 19:10 | 20:56 | **з Гудагая** | 6127 | 17:35 | 19:19 | |
| 6134 | 19:48 | 21:09 | **з прыпынкамі** Фестывальны, Уша, Алёхнавічы Дубравы, Радашкавічы, Беларусь, Ратамка, Ждановічы, Лябяжы, Масюкоўшчына, Мінск Паўночны | 6129 | 18:15 | 19:59 | |
| 6136 | 20:54 | 22:39 | | 6131 | 19:15 | 21:06 | |
| 7036 | 21:35 | 22:54 | **Гудагай-Маладзечна** з прыпынкамі па станцыях і п.п.Каменка, Гаўці, Маладзёжны, далей **да Мінска з прып.** Фестывальны, Ждановічы, Мінск Паўночны | 6133 | 20:42 | 22:28 | |
| 6138 | 22:17 | 23:55 | **з Гудагая** б.п. Раманы, Пралескі, Хмелеўка, Зялёнае, Крыжоўка | 6135 | 22:16 | 00:10 | **б.п.** Мясата, Татаршчызна, Крыніца, Селівонаўка |

# Змяненні ў курсіраванні цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін



У сувязі з пачаткам руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканомкласа на электрацязе на ўчастку **Мінск - Маладзечна** мяняецца графік руху цягнікоў:

**ад 16 верасня адмяняецца**

- адпраўленнем да ст. **Мінск** у **..........09:58**

**ад 18 верасня прызначаецца**

- адпраўленнем са ст. **Мінск** у **..........05:32 па рабочых днях**
- прыбыццём на ст. **Мінск** у **..............07:19**

**ад 16 верасня**

- адпраўленнем са ст. **Мінск** у .....07:36 будзе адпраўляцца ў **7:29**
- адпраўленнем да ст. **Мінск** у .....09:40 будзе адпраўляцца ў **9:31**
- адпраўленнем са ст. **Мінск** у 11:12 па пятніцах будзе адпраўляцца ў **10:57 штодзённа**
- адпраўленнем да ст. **Мінск** у .....19:08 будзе адпраўляцца ў **19:10**

Цягам перыяду дзеяння графіка магчымыя змяненні.

**Тэлефоны чыгуначнага вакзала ст. Маладзечна для даведак:**

(80176) **74-24-23, 105**

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі, станцыя Маладзечна УНП 600199541

# Чый герой Фёдар Маркаў?

## Марадзёрства і непрыстойныя адносіны да жанчын сярод партызан – і з гэтым у вайну змагалася савецкае кіраўніцтва

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №№ 34, 35, 36.*

МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

**Часта партызанскія атрады біліся між сабой за нарабаванае дабро, з-за жанчын. Заўсёды знаходзілася самагонка. Партызаны маглі спаліць вёску, як, напрыклад, Канюхі.**

У Маскве ведалі пра адносіны партызан да мясцовых жыхароў. З цэнтра былі загады не паліць вёсак, не расстрэльваць без суда. Але сам партызанскі рух ствараў антысавецкія настрої ў нашых людзей.

У справаздачы на імя Сталіна "Аб развіцці партызанскага руху", датаванай чэрвенем 1943 года, начальнік цэнтральнага штаба партызанскага руху **Панцеляймон Панамарэнка** прызнаваў "памылкі" ў адносінах да жыхароў хутароў і вёсак:

"Мародёрство, или изъятие продовольственных ресурсов, необоснованные расстрелы и репрессии по отношению к населению, непорядочное отношение к женщинам при расположении некоторых отрядов в деревнях, продолжительные отсиживания, стремление избежать встречи с противником".

### Марадзёрства і адседжванне

Усё гэта адбывалася і на Пастаўшчыне, дзе гаспадарылі шматлікія атрады Маркава. Яны тэрарызавалі мясцовых жыхароў, асабліва палякаў, беларусаў-каталікоў.

Звернемся да савецкіх дакументаў. Пратакол пасяджэння бюро Пастаўскага падпольнага райкама КП(б)Б ад 25 кастрычніка 1943 года:

параграф №3 "Наряду с проведённой работой, имеются существенные недостатки, случаи мародёрства со стороны партизанских отрядов";

параграф №4: "Поставить в известность обком КП(б)Б о воздействии на командиров данных отрядов (из бр. Маркова), не ведущих борьбы с мародёрством…".

На пасяджэнні падпольнага райкама КП(б)Б у сакавіку 1944 года заслухоўвалася справаздача камісара атрада імя Суворава "О выполнении решения бюро РК от 20.2.1944 г. об устранении неправильного отношения к местному населению".

**Няправільнымі адносінамі да насельніцтва тут, відаць, сарамліва называлі разбой і забойствы мірных жыхароў.**

### Ажаніўся з непаўнагадовай партызанкай, стаў героем

У 1944 годзе Панцеляймон Панамарэнка адзначаў: "Есть факты неправильного подхода к девушкам-партизанкам со стороны отдельных командиров и комиссаров отрядов. В партизанской бригаде Ф. Маркова насчитывается 30 партизанок (в июле 1944 уже 116).

**В боях участвуют только 9 из них. Многие вышли замуж (сожительствуют). Женился на несовершеннолетней и сам Марков".**




Бюст Фёдару Маркаву ў Паставах.

Зразумела, для чаго партызаны "па-геройску" адбіралі завушніцы, пярсцёнкі, сукенкі, жаночае споднее ў безабаронных людзей. Шкада, што такія агідныя рэчы афіцыйна проста замоўчваюцца, як бы нічога такога і не адбывалася ўвогуле.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 1 студзеня 1944 года з выпадку 25-годдзя абвяшчэння БССР групе партызанаў, у тым ліку і Фёдару Маркаву, было прысвоенае званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля "Залатая Зорка".

Як напісана ва ўказе: "за образцовое выполнение правительственных заданий в борьбе против немецко-фашистских захватчиков в тылу противника и проявленные при этом отвагу и геройство и за особые заслуги в развитии партизанского движения в Белоруссии".

Так былі ацэненыя заслугі Маркава, якому ў той час не было яшчэ і трыццаці год.

Заслугоўвае ўвагі яшчэ адзін дзіўны дакумент. Гэта загад №59 ад 28 студзеня 1944 года начальніка ваенна-аператыўнага аддзела пры Вілейскім падпольным абкаме КП(б)Б Маркава аб арганізацыі абласнога агітатрада імя Горкага.

Гэтым загадам арганізоўваецца ансамбль партызанскай песні і танца, які сваімі песнямі і скокамі павінны несці ў масы савецкую культуру. Падпісаны загад проста "полковник Марков".

Выданне гэтага загада – проста здзек. Вядома, якія песні і якую культуру маглі несці ў масы партызаны Маркава.

Размовы пра шматлікія пасляваенныя загулы былога знакамітага партызана ўзніклі не на пустым месцы.

### Помнік паўстаў ужо праз год

Не стала Фёдара Маркава 14 студзеня 1958 года. Ужо праз год паўстаў помнік, праўда, чамусьці без звычайнага ў такіх выпадках пазначэння гадоў жыцця.

**Калі не хочам ахвяраваць будучым, то нельга гаварыць, што мінулае нас не тычыцца, што не ўсё трэба ведаць.**

Іншая справа, што мала цікавімся рэальнымі фактамі, часта проста лянуемся аб'ектыўна асэнсаваць падзеі мінулага і сучаснага.

**Сяргей КАСМАЧ,**
**Маладзечна.**

**Калі ў вас ёсць артыкулы на краязнаўчую ці гістарычную тэму, дасылайце тэкст ў рэдакцыю на адрас regionnews@rh.by. Зрабіце ў тэме ліста пазнаку "Куфэрак". Рэдакцыя разгледзіць працу, і, магчыма, яна будзе надрукаваная ў "РГ".**

---

● КАЛЯНДАР

**15 ВЕРАСНЯ**

**1959. Мікіта Хрушчоў** прыбыў з візітам у ЗША. Першы такі візіт кіраўніка СССР.

**16 ВЕРАСНЯ**

**1895**. У Свянцянах нарадзіўся **Францішак Жвірка**, герой польскай авіяцыі. Трагічна загінуў у час палёту са сваім напарнікам Станіславам Вігурам 11 верасня 1932 года. У Вілейцы ў міжваенным часе была вуліца імя Жвіркі і Вігуры, цяпер імя іншага пілота: Вадап'янава.

**1939.** У выніку нямецкай бамбардзіроўкі спынілі сваё існаванне радыёперадатчыкі польскага радыё ў Вільні і Баранавічах.

**17 ВЕРАСНЯ**



**1912.** У вёсцы Пількаўшчына Вілейскага павета нарадзіўся **Максім Танк**, беларускі і савецкі паэт. Класік беларускай літаратуры. Памёр 7.08.1995.

**1939.** Чырвоная Армія пачала паход у Заходнюю Беларусь і Украіну.

**1939.** Пасля чатырох дзён баёў з польскімі падраздзяленнямі немцы авалодалі Брэсцкай крэпасцю.



**1949.** Нарадзіўся **Генадзь Карпенка**, беларускі навуковец і палітык. У 1990-я старшыня Маладзечанскага гарвыканкама. Памёр 6.04.1999.

**18 ВЕРАСНЯ**

**1915.** Кайзераўскія войскі занялі Вільню.

**19 ВЕРАСНЯ**

**1991.** Вярхоўны Савет БССР зацвердзіў назву беларускай дзяржавы – Рэспубліка Беларусь і яе дзяржаўныя сімвалы бела-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня.

**20 ВЕРАСНЯ**

**1903.** У Баку нарадзілася **Наталля Арсеннева**, беларуская паэтэса, перакладчыца, драматург. Пасля верасня 1939 жыла ў Вілейцы, працавала ў абласной "Сялянскай газеце". У 1940-х сасланая ў Казахстан.

**21 ВЕРАСНЯ**

1918. Нарадзіўся **Фёдар Янкоўскі**. Беларускі пісьменнік і мовазнавец. У 1940-х выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Радашкавіцкай сярэдняй школе.

# Дом, дзе пішуцца творы і жыве гісторыя

*Заканчэнне. Пачатак у №37.*

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пакой мастака і выкладчыка цымбалаў Юрася Церабуна нагадвае выставу ў музеі. Адзінае адрозненне, што пра кожны твор мастацтва, пра кожную рэч гаспадар можа расказваць гадзінамі.**



Юрась Церабун жыве ў пакоі, дзе кожная рэч мае сваю гісторыю і свой лёс. На сценах – абразы, карціны і дарагія сэрцу рэчы. Партрэты і пейзажы – падарунак Ядвігі Раздзялоўскай. Мастачка казала: "Бяры, колькі зможаш. Асабліва партрэты. Іх людзі проста выкінуць, пакінуўшы толькі кветкі або пейзажы. Я вельмі хачу, каб усё засталося ў надзейных руках". Работы Ядвігі Раздзялоўскай у Юрася Церабуна хацелі купіць. Юрась Васільевіч адказаў: "Яны не прадаюцца. У мяне ёсць дзеці і ўнукі. Гэта іх спадчына".




На гліняным медальёне з надпісам "Смаргонь" угадваецца мядзведзь са Смаргонскай акадэміі, які танцуе пад дудку. Злева – смаргонскія абаранкі.

Юрась Васільевіч прыгадвае гісторыю, калі ён удзельнічаў у аркестравай групе ансамбля імя Агінскага ў Смаргоні, іграў на цымбалах.

– У нас была вакальна-харэаграфічная кампазіцыя "Смаргонскія абаранкі". Праз усю сцэну працягвалі пад нахілам лёску і пад гукі музычных інструментаў пускалі ўніз абаранкі. Высокі гук – і ляціць маленькі абаранак. А ў канцы кампазіцыі на скрыпічнай басэтлі смычком бярэцца самы нізкі працяглы гук. І ўніз па лёсцы спускаецца вялізны, таўсценны абаранак.

*Учора цеста я рабіла*
*Абаранычкі ляпіла,*
*і малыя, і такія*
*Як калёсы вялікія!*

Гучыць хор, іграе аркестр, і танцоры танцуюць прыгожую, гарэзлівую "Весялуху".



Твор "Вязынка" вісіць у Юрася Церабуна ў калідоры. Пра гэты твор Юрась Васільевіч расказаў, што самае цяжкае было – гэта намаляваць пыл. Ён бачны ў хаце ад акна, праз якое пранікае сонечнае святло.

З Героем Сацыялістычнай Працы кандыдатам эканамічных навук **Уладзімірам Міхайлавічам Калачыкам** Юрась Церабун сябруе ўжо шмат гадоў. Але Уладзімір Міхайлавіч шкадуе, што гэта знаёмства не адбылося раней.

Ён кажа:

**Я цябе перацягнуў бы на працу ў калгас. Ты б займаўся развіццём культуры. У нас быў бы самы лепшы Дом культуры, мы б не шкадавалі сродкаў на добрыя справы. Купілі б музычныя інструменты, апаратуру, фарбы, эцюднікі. За табой бы дзеці хадзілі гуртам… У цябе незвычайная любоў да зямлі, вёскі і яе працавітых людзей.**



Карціна Кастуся Харашэвіча "Ваколіцы Мінска". Гэта адзіная карціна мастака, якая засталася ў Юрася Васільевіча. А калісьці Кастусь Іванавіч падарыў Юрасю Церабуну 13 сваіх карцін. "Вуліца ў Ашмянах", "Храм у Радашкавічах", "Стажкі". Аднойчы ён папрасіў сабраць усе творы разам і прывезці іх у майстэрню, каб чалавек з Мінска мог сфатаграфаваць іх для каталога. Аднак, відаць, лічба 13 аказалася нешчаслівай для Юрася Церабуна, бо ўсе карціны адтуль скралі. Ішоў рамонт, працавала шмат рабочых. Яны і знеслі ўсе 13 прац Кастуся Харашэвіча.



А гэты твор мастацтва зрабіла сама прырода і толькі прырода. Кавалак кары, на якім лісце ды розныя жучкі-караеды пакінулі свае сляды, Юрась Васільевіч заўважыў у сябе на лецішчы літаральна пад нагамі. Вырашыў, што няма чаго такой прыроднай прыгажосці прападаць, і прынёс з сабой. У гэтым увесь Юрась Церабун. Мастак, для якога прыгажосць не ў золаце і аксаміце, а ў кары дрэва, снапку жыта з вёскі, першых нясмелых малюнках дзетак, абаранках ды сушанай рыбе. Прыгажосць там, дзе ёсць душа. Праўда, маэстра?

**Старонку падрыхтавала Наталля ТУР..**

# Валожын ажывае па чацвяргах...

## Украінка распавяла, як першы раз наведала Беларусь

ВАЛОЖЫН

**Для журналісткі з Украіны Ірыны Зямляны знаёмства з Беларуссю пачалося з Валожына.**



Фота facebook.com

Ірына Зямляна на Валожыншчыне. "Беларуская прырода – проста невымоўная," – напісала дзяўчына на сваёй старонцы ў сацсетках.

– Першае, што кінулася ў вочы, гэта неба, – прыгадвае Ірына. – Яно шырокае і ў той жа час вельмі нізкае. Раней я думала, што такія хмары можна ўбачыць толькі ў мульціках.

На працягу трох дзён знаходжання ў Валожыне Ірына не магла налюбавацца беларускім небам. Менавіта яно рабіла пейзаж казачным.

А вось беларусы, заўважыла Ірына, гэтай казачнасці не заўважаюць. Яны не разумелі, навошта дзяўчына ўвесь час фатаграфуе неба.

### Валожын – горад спакою і парадку

Горад Валожын падаўся Ірыне надзвычай спакойным. Але, як прызналася госця з Кіева, увесь час яна адчувала тут нейкую трывожнасць і штучнасць з-за вельмі запаволенага, нязвыклага для яе тэмпу жыцця.

– Горад ажывае толькі ў чацвер, – працягвае дзяліцца ўражаннямі Ірына.

Прычына таму – базар, які ладзяць у раённым цэнтры ў гэты дзень. Людзі з бліжэйшых вёсак з'язджаюцца сюды, каб набыць рэчы, якіх няма ў вясковых крамах.

У астатнія ж дні, па назіраннях Ірыны, валожынцы нікуды не спяшаюцца, ходзяць па гадамі распрацаваных маршрутах: у чацвер – на базар, раз на месяц – забраць у аптэцы лекі, ад панядзелка – на працу, потым два выходныя.

Пра чысціню і незвычайную акуратнасць у Беларусі, па словах Ірыны, не кажа толькі лянівы. Не выключэнне і Валожын.

Дарогі нядрэнныя. Калі з'яўляюцца невялікія трэшчыны, іх адразу пачынаюць рамантаваць. Фасады будынкаў таксама адрамантаваныя і пафарбаваныя. Немагчыма знайсці паламаны плот або няскошаную траву.

– Мяне ўвесь час не пакідала адчуванне, што я знаходжуся ў нейкім старым савецкім фільме, – распавядае Ірына. – Усё, што я назірала ў Валожыне, можна было назваць адным словам "парадак". І валожынцы гэтым парадкам вельмі ганарацца.

### На плошчы – раённая адміністрацыя і, вядома ж, Дошка гонару

Цэнтральная плошча горада – адміністрацыйны цэнтр. Тут месцяцца будынкі, дзе працуюць гарадскія чыноўнікі. Побач, вядома, Дошка гонару.

Усе бардзюры і агароджы на плошчы пафарбаваныя ў ярка-ружовы колер. Чаму менавіта ў гэты, Ірына так і не зразумела.

– Мяне ўвесь час выдаваў мой украінскі акцэнт, – кажа дзяўчына. – Па-расейску я гавару вельмі дрэнна, а часам, увогуле, забываюся і незаўважна для сябе пераходжу на ўкраінскую мову.

Людзі рэагавалі на гэта па-рознаму. Многія адразу пачыналі распытваць украінскую госцю. Згадка пра Украіну ў валожынцаў выклікала ажыўленне. Некаторыя нават пачыналі шкадаваць.

– У прыватных размовах людзі маглі доўга расказваць, як няпроста ім жывецца, – кажа дзяўчына. – Але як толькі даведваліся, што я з Украіны, адразу казалі:

> "У нас усё добра. Падумаеш, заробкі малыя. Але затое вайны няма. Мы тэлевізар глядзім і ўсё ведаем".

Адзін валожынскі хлопец спрабаваў пазнаёміцца з Ірынай. Калі пачуў, што яна з Кіева, адрэагаваў нечакана: "А, руская!"

### Манумент шукала доўга

Ад мясцовых жыхароў Ірына пачула, што ў Валожыне ёсць манумент, пастаўлены на месцы масавага расстрэлу яўрэяў у часы вайны. Калі шукала дарогу, многія не ведалі, дзе стаіць помнік. Аднак, калі казала, што шукае новы парк, усе адразу ўказвалі, куды ісці.

З інфармацыі на мануменце шмат пра тыя падзеі ў Ірыны даведацца не атрымалася.

– Там проста пазначана, што тут былі замучаныя людзі. Без ніякіх дат і тлумачэнняў, – кажа дзяўчына.

Супрацоўнікі мясцовага лясніцтва паказалі Ірыне неафіцыйны музей. Ён займае два невялікія пакоі. На сценах аднаго – пудзілы жывёл, іх скіўцы, косткі. У другім – рабочы стол з савецкай сімволікай.

– Сам "музей" не вельмі зацікавіў мяне, а вось будынак уразіў, – дзеліцца Ірына. – Адразу бачна, што з гісторыяй.

### Чым жыве начны Валожын

Каб убачыць поўную карціну горада, госця з Кіева вырашыла паглядзець, як жыве Валожын ноччу.

– Мясцовыя жыхары кажуць, што ёсць два пункты збору моладзі, – распавядае Ірына. – Для тых, каму да 25, – кінатэатр, а для катэгорыі 25+ дзейнічае рэстаран-кафэ-бар.

Мы затусаваліся сярод падлеткаў, кажа Ірына. Вечарам у будны дзень кафэ не было перапоўненае. Маладыя людзі сядзелі за столікамі. Калі іграла музыка, выходзілі танцаваць пад сучасныя расійскія хіты.

– Мяне той бар нічым не здзівіў, – кажа госця з Кіева. – У падобным я была некалькі год таму, ва ўкраінскім сяле, дзе нарадзілася. Толькі музычны рэпертуар там быў іншы.

У гатэль Ірына вярталася а дванаццатай ночы. Кажа, на вуліцы не было ні душы, толькі шчодрыя ліхтары асвятлялі пустыя і чыстыя вуліцы.

Падрыхтавала
**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Аленай КРЭЙНІС

Блэйд нанова вучыцца хадзіць, апрабоўваючы новы інвалідны вазок.

## Сабака з прытулку на Валожыншчыне дачакаўся інваліднага вазка

ВАЛОЖЫН

**Ужо некалькі дзён сабака-інвалід з прытулку ў Алешчанятах, што на Валожыншчыне, вучыцца карыстацца спецыяльным інвалідным вазком.**

– Цяпер Блэйд успамінае, як хадзіць, – дзеліцца радасцю гаспадыня прытулку **Алена Крэйніс**. – З кожным днём у яго атрымліваецца ўсё лепш і лепш.

Пра інвалідны вазок для свайго гадаванца – аўчаркі Блэйда – Алена і Ігар Крэйнісы марылі даўно. Даведаліся, што такія прыстасаванні вырабляюць у Санкт-Пецярбургу. І вось дзякуючы фінансавым куратарам з-за мяжы мара гаспадароў здзейснілася.

У прытулку, што Крэйнісы трымаюць у Алешчанятах, жывуць некалькі сабак. Звычайна ў межах дзесяці.

Блэйд – адзін з тых, хто знаходзіцца ў Алешчанятах найдаўжэй. Большасць сабак, па словах Алены, знаходзяць новых гаспадароў у Беларусі і за мяжой.

А Блэйд трапіў у прытулак зімой. Сабаку з перабітым пазваночнікам і адсечаным хвастом знайшлі куратары ў канаве ля мінскай кальцавой дарогі. Яны і прывезлі няшчасную жывёлу да Крэйнісаў.

Увесь гэты час, па словах Алены, сабака поўзаў пры дапамозе пярэдніх лап. Гаспадары прытулку гуляюць з ім, кормяць, лечаць. Аўчарка-інвалід па ўзросце не маладая, таму хапае розных хвароб.

Калі прывезлі пасылку з Санкт-Пецярбурга, Блэйд сумленна нёс варту і доўга не хацеў пускаць у двор чаканых паштальёнаў.

– Сіняя паштовая машына так доўга сігналіла, што аж суседка выйшла, – прыгадвае Алена.

Усе раменьчыкі на вазку гаспадары адрэгулявалі. Цяпер Блэйд асвойвае новую тэхніку. Праўда, пакуль сабака хутка стамляецца. Паўгадзіны паходзіць, кажа Алена, а потым дзве ляжыць.

Ці знойдзе Блэйд гаспадароў, якія забяруць яго з прытулку? Па назіраннях Алены, гэта малаверагодна. Хіба што нехта з-за мяжы захоча ўзяць аўчарку-інваліда. Такія выпадкі ў Алешчанятах здараліся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## 8 верасня ў Вілейцы адкрылі літаратурна-музычны фестываль "Светлае слова"

ВІЛЕЙКА

Мерапрыемствы свята – канцэрты, конкурсы, выставы – будуць ладзіць да канца верасня.

8 верасня ў 11:00 у вілейскім каледжы ўрачыстым канцэртам адкрылі фестываль.

– Учора некалькі разоў мусіў выступаць: і ў бібліятэцы, і ў каледжы, і ў Цэнтры эстэтычнага выхавання, і для дзетак, і для дарослых, – падзяліўся адзін з удзельнікаў свята, бард і паэт **Уладзімір Цанунін**.

Па словах Уладзіміра Яфімавіча, які ў мінулыя выхадныя ездзіў на Дзень беларускага пісьменства ў Полацк, вілейскае раённае свята арганізавалі куды лепш, чым рэспубліканскае.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як атрымаць $ 1 мільён за разгадку шахматнай задачы

**У Сент-Эндрускім універсітэце ў Вялікабрытаніі прапанавалі мільён долараў таму, хто зможа разгадаць старадаўнюю шахматную задачу пра восем ферзяў, вядомую з 1850 года.**

Сутнасць галаваломкі ў тым, каб расставіць на стандартнай шахматнай дошцы ў 64 клеткі восем ферзяў так, каб ні адзін з іх не змог атакаваць іншага. У мяне з ходу атрымалася расставіць толькі пяць ферзяў.



Неабходна прыдумаць алгарытм для рашэння задачы або даказаць, што яго не існуе.

На думку навукоўцаў, той, хто зможа напісаць падобную праграму, будзе здольны адаптаваць яе і для вырашэння іншых важных задач.

І зноў вітаю вас. З вамі **Віталь Качаткоў**. Сёння мы перанясёмся ў Беларусь, у наш рэгіён, і разам з "РГ" паспрабуем узмацніць шахматныя і іншыя інтэлектуальныя магчымасці. Давайце паглядзім на логіку шахматыста з пункту гледжання паходу ў магазін.

Кожны ходзіць у краму, але як на гэта глядзіць шахматны мозг? Вось як. Трэба схадзіць па прадукты. Ацэньваем сітуацыю на дошцы... а не, у халадзільніку.

Пралічваем магчымасці і жаданні. І дай вам бог, каб было шмат варыянтаў і не было аднаго фарсіраванага: няма грошай – няма ежы. Заблытаў? Стараўся!

А вось яшчэ адно добрае параўнанне шахмат у лепшы бок, у адрозненне ад іншых відаў спорту.

У шахматах не іграюць асаблівай ролі вашы фізічныя дадзеныя. У вас іх можа ўвогуле не быць. У міжнародным турніры ў Чыкага я сустракаў гульца, у якога не было ні рук, ні ног, і ён гуляў з сілай міжнароднага майстра. У шахматы гуляюць цалкам невідушчыя людзі, і даволі паспяхова.

У адрозненне ад іншых відаў спорту ў шахматах істотная толькі думка. Што з таго, калі ў футбаліста добрая думка, але ён павольна бегае, стамляецца і слаба б'е па мячы... галавой.

У шахматах можна карава ўзяць фігуру і ўсё роўна паставіць мат і выйграць. Трэніруйце логіку і думку, сябры, з дапамогай шахмат! А якія прыгожыя дзяўчаты гуляюць у шахматы! А можа, дзяўчаты становяцца прыгожымі, калі гуляюць у шахматы?

Падсумуем: мы ўжо гуляем у шахматы, і гэта поспех! А што ж далей? Трэба парашчаць усе заданні з кніжкі "Мат у адзін ход", і вы будзеце гуляць у сілу чацвертага дарослага спартыўнага разраду!

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**



## Кнігу Віталя Качаткова пра шахматы прадаюць у Амерыцы

Першая партыя кнігі "Мат у адзін ход" майстра спорту па шахматах РБ з Маладзечна ўжо адправілася ў ЗША.

Амерыканскі трэнер беларускага паходжання **Ігар Рыбакоў** звязаўся з маладзечанцам падчас сваіх канікулаў у Беларусі.

Ігар Рыбакоў – майстар спорту па шашках міжнароднага класа, паходзіць з Гомеля. Лёс склаўся так, што цяпер ён выкладае шахматы ў Штатах. Жыве і працуе ў штаце Мінесота, што на поўначы ЗША, больш за пяць год. Сярод яго вучняў ёсць дзеці, якія займалі годныя месцы на разнастайных шахматных спаборніцтвах.

Падчас канікулаў на радзіме выпадкова ў кніжнай краме заўважыў кнігу "Мат у адзін ход". Прагартаўшы некалькі старонак, ацаніў вартасць дапаможніка і вырашыў заказаць 50 экзэмпляраў.

Праз інтэрнэт знайшоў каардынаты аўтара, шахматысты сустрэліся ў Мінску і абмеркавалі далейшыя перспектывы супрацоўніцтва.

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыкі перамогі і слёзы ад незабітага гола

## У "Надзеі" зладзілі турнір па міні-футболе сярод дзяцей

ВІЛЕЙКА

**Футбольныя каманды дзіцячых рэабілітацыйных цэнтраў Беларусі прыехалі на чатыры дні ў "Надзею", што на Вілейшчыне.**

Ад 7 да 10 верасня ў рамках адзінага тыдня масавага футбола тут зладзілі трэці штогадовы рэспубліканскі турнір па міні-футболе паміж камандамі дзіцячых рэабілітацыйных цэнтраў.

Мерапрыемства падтрымлівае Беларуская федэрацыя футбола і Саюз еўрапейскіх футбольных асацыяцый. Па словах супрацоўнікаў цэнтра і ўдзельнікаў спаборніцтваў, атрымалася сапраўднае футбольнае свята.

Першы турнір зладзілі ў 2014 года па ініцыятыве "Надзеі" і прымеркавалі да 20-годдзя цэнтра. А пляцоўку для міні-футбола адкрылі тут яшчэ ў 2006-м. З гэтага часу кожную восень "Надзея" сустракае юных міні-футбалістаў.

Унікальнасць сёлетняга турніру ў тым, што ўпершыню на пляцоўку выйшлі дзяўчынкі і замест заўсёдных дзевяцідзесяці камандаў прыехала 18.

Усім гульцам было ад 11 да 12 гадоў. Так прапісана ў палажэнні. Каманды прыехалі з Гродзеншчыны, Міншчыны, Віцебшчыны, Брэстчыны.

У гэтыя чатыры дні "Надзея" прымала прадстаўнікоў васьмі дзіцячых рэабілітацыйных цэнтраў. Найбольш прыехала з Гомельскай вобласці – "Сядзельнікі", "Світанак", "Пціч" і "Пралеска".

Асаблівасці спартыўных камандаў дзіцячых рэабілітацыйных цэнтраў у тым, што трэнеры мусяць працаваць са зменным складам дзяцей.

– Вучні прыязджаюць да нас крыху больш, чым на 20 дзён, – распавяла **Аксана Альфер**, кіраўнік фізічнага выхавання "Надзеі".

**– Гэта не наведнікі спартыўных школ, рэдка атрымоўваецца так, што нехта з іх сур'ёзна займаецца міні-футболам.**

Фарміруем каманду з тых, хто ёсць, кажуць у "Надзеі". Стараюцца толькі, каб турнір не атрымаўся ў пачатку змены і хоць нейкі час быў на падрыхтоўку.

Вучні, з якіх сфарміравалі сёлетнія каманды, заехалі ў "Надзею" 28 жніўня. Атрымоўваецца, рыхтаваліся крыху больш за тыдзень.

Сёмага верасня турнір урачыста адкрылі з удзелам прадстаўнікоў Вілейскага райвыканкама і Федэрацыі беларускага футбола, а ўвечары згулялі першы матч.

Чатыры дні на міні-футбольнай пляцоўцы ў "Надзеі" гучалі падбадзёрвальныя воклічы трэнераў і пераможныя крыкі юных гульцоў. Былі і слёзы ад няўдалага падзення і незабітага гола.

Паміж турнірамі супрацоўнікі "Надзеі" ладзілі для футбалістаў забаўляльную праграму. Кожны вечар была дыскатэка, прагляд фільмаў.

У апошні дзень турніру, 10 верасня, узнагародзілі пераможцаў. У хлопцаў першай стала каманда "Ждановічы", а два наступных месцы ўзялі прадстаўнікі Гомельшчыны. У каманды "Пралеска" – другое месца, у "Сядзельнікаў" – трэцяе.

У дзяўчат на трэцім месцы – каманда "Жамчужына" з Віцебска, на другім – міні-футбалісткі са Ждановічаў.

А лепшымі сярод усіх стала каманда дзяўчат з "Надзеі".

– Ад перамогі дзяўчат-"гаспадынь" поля асабліва радасна, – кажа Аксана Альфер. – Вельмі ўдалы ў іх атрымаўся дэбют.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК

Лепельскі гулец на лаве запасных заўзее за сваіх.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

## Віляйчане сталі лепшымі ў конкурсе вальшчыкаў лесу ў Петразаводску

ВІЛЕЙКА

**Каманда лесарубаў Мінскай вобласці вярнулася дамоў з перамогай з чэмпіянату ў Расіі.**

У каманду ўваходзілі два работнікі Вілейскага доследнага лясгаса **Валеры Дуровіч** і **Мікалай Ярошык**.

Як расказала "Рэгіянальнай газеце" **Анастасія Дакучаева**, прэс-сакратар Міністэрства лясной гаспадаркі, па колькасці набраных балаў камандзе з Мінлясгаса не было роўных.

Высокі прафесіяналізм пацвердзіў леташні чэмпіён Валеры Дуровіч. Ён набраў 1629 балаў і апярэдзіў на 19 ачкоў чэмпіёна Расіі **Іллю Швяцова.**

Лепшы вынік у практыкаванні "Замена ланцуга" паказаў віляйчанін Мікалай Ярошык, а ў выніковым пратаколе ён заняў другі радок (1624 балы).

Першае месца ў Беларусі і ў агульнакамандным заліку. Зборная, у склад якой уваходзілі работнікі Вілейскага лясгаса, а таксама **Сяргей Шкудроў** з Беразіно, апярэдзіла бліжэйшых сапернікаў – расійскую каманду №1 – на 59 балаў.

Чэмпіянат Расіі "Лесаруб-2017" сёлета ладзілі ў Петразаводску ў Карэліі. У ім удзельнічала каля 130 лесарубаў, прадстаўнікі 27 камандаў.

Цяпер вілейскія лесарубы рыхтуюцца да чэмпіянату свету ў Нарвегіі, які правядуць у жніўні 2018 года. Летась чэмпіёнам свету на спаборніцтвах у Польшчы стаў Валеры Дуровіч.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка „Рэгіянальнай газеты"



**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Кароткая рыска, якая служыць для злучэння двух слоў.
3. У футболе – штрафны ўдар па варотах праціўніка з адлегласці 11 метраў.
6. Некаторыя лічаць, што менавіта яны сталі прычынай смерці Напалеона Банапарта. Напрыканцы жыцця імператар моцна пакутаваў на апуханне рук і ног. Мяркуецца, што віной гэтаму – мыш'як, які напрыканцы 18 стагоддзя шырока выкарыстоўвалі пры вырабе гэтай надзвычай распаўсюджанай ў нашых сучасных дамах часткі інтэр'ера.
7. У 18-19 стагоддзях хуткасныя трохмачтавыя парусныя ладзілі гандлёвыя рэйсы з Кітая ў Еўропу. Што яны перавозілі?
8. Жыхары гэтай краіны здаўна называюць яе Ніпон. Гэта назва складаецца з двух знакаў – "сонца" і "аснова". Як гэту краіну называем мы?
9. У 1912 годзе навукоўца Функ вылучыў з рысавага вотруб'я карысное рэчыва, "рэчыва жыцця". Як ён яго назваў?
11. Доктарскае заключэнне аб хваробе на падставе абследавання хворага.
12. У Чылі – уаса, у Венесуэле – льянера, у Македоніі – шэпард, у Харватыі – пастыр. А ў Беларусі?
15. Жрэц у старажытных кельтаў.
17. Прозвішча майстра залатых спраў, які ў 1161 годзе па заказе Еўфрасінні Полацкай вырабіў каштоўны крыж для сабора Спаскага манастыра.
18. Гэту краіну на трэць адваявалі ў мора.
19. Краіна на Аравійскім паўвостраве, мяжуе з Іракам і Саудаўскай Аравіяй.
20. Старадаўняя сярэбраная, затым залатая манета ў некаторых заходнееўрапейскіх краінах.
21. Ім карыстаўся Нерон, яны былі ў Калізеі. У Беларусі іх выпускаюць толькі ў Магілёве. Сёлета зрабілі першы без выкарыстання тросаў.
24. Марка Пола пісаў: "На поўнач ад Арменіі ляжыць Царцыяніна, дзе на мяжы ёсць вялікі калодзеж з алеем. Гэты алей выкарыстоўваюць не для ежы, а толькі замест мазі пры скурных захворваннях у людзей і жывёл". Што гэта за "алей"?
25. Паводле Гётэ, яна – стваральнік усіх стваральнікаў.
27. Прыстасаванне ў радыёпрыёмніку для пераўтварэння ваганняў высокай частаты ў ваганні нізкай.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Навука пра ўзнагароды і іх гісторыі.
4. Адзін з раннеспелых гатункаў бульбы, які рэкамендуе пакаштаваць дырэктар Маладзечанскай гатункавыпрабавальнай станцыі Сямён Кацуба.
5. Вёска ў Вілейскім раёне, дзе на сваім лецішчы аўтамеханік Леанід Кулеш вырасціў баравікі.
10. Метал, названы ў гонар антычнай багіні мудрасці.
13. Размоўнае слова: страўнік. Таксама беларуская страва з яго.
14. Род дзейнасці вынаходніка складной шахматнай дошкі.
16. У гэту спартыўную гульню гуляў рымскі імператар Аўгуст, а афіцыйны год яе нараджэння 1863.
18. Сталіца арганных канцэртаў у нашым рэгіёне.
20. Санлівасць; паўсон.
22. З дзённіка Кузьмы Чорнага: "Пакуль жыву – дзяўбу пяром ... Пяро трывалае".
23. Тварэц; актыўная арганізуючая сіла.
26. Менавіта ваду з яго бралі дасведчаныя мараходы, таму што гэта вада не псавалася доўгі час.
28. Салодкія стравы, садавіна, цукеркі, якія падаюцца у канцы абеду.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №36.**

**Па гарызанталі.** 1. Офіс. 3. Гектар. 4. Пармезан. 8. Ферзь. 9. Сухар. 14. Атрута. 15. Мусон. 16. Мука. 19. Соль. 20. Марфей. 22. Магнэзія. 25. Геоід. 26. Пенальцi. 27. Магія. 30. Арамiс. 33. Матор.

**Па вертыкалі.** 2. Мастак. 5. Артэмон. 6. Гастраном. 7. Опера. 10. Мах. 11. Патлумачыць. 12. Валожын. 13. Стымул. 17. Сурвэтка. 18. Зманіў. 19. Струмень. 21. Партызаны. 23. Ставок. 24. Бельгія. 25. Гіпс. 28. Дэкан. 29. Ганг. 31. Абітурыент. 32. Мойва. 33. Маслёнка. 34. Зубраня.

## ГАРАСКОП 15-21 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Цяпер вашы думкі пастаянна занятыя дзелавымі і фінансавымі пытаннямі. Канцэнтрацыя намаганняў можа прывесці да поспеху і ўмацавання матэрыяльнага становішча, кар'ернага росту, дасягнення папулярнасці. Але эканомна расходуйце сілы і пазбягайце вялікіх трат.



**ЦЯЛЕЦ.** Перыяд назапашвання энергіі. Схільнасць да псіхічных нагрузак, непатрэбных хваляванняў можа выклікаць павышаны апетыт, прыхільнасць да салодкага ці курэння, а гэта ўжо шкодзіць здароўю.



**БЛІЗНЯТЫ.** Ваша ўвага будзе накіраваная на рашэнне матэрыяльных пытанняў. Старайцеся пазбягаць празмернай рызыкі і нерацыянальных фінансавых рашэнняў.



**РАК.** Матэрыяльная сфера будзе найбольш значнай для вас. Могуць з'явіцца новыя ідэі і праекты, якія іншым здадуцца дзіўнымі і нездзяйсняльнымі. Але вы можаце перамагчы і дамагчыся ў далейшым матэрыяльнага ўзнагароджання за свае намаганні.



**ЛЕЎ.** Цяпер узровень энергетыкі невысокі, энергія часта рассейваецца, цяжка прыступіць да справы і давесці яе да канца. Эмацыйныя расчараванні, страхі могуць аслабіць вас. Але ў вашых сілах настроіцца на лепшае і пазбавіцца ад негатыву.



**ДЗЕВА.** У гэты час многія з вас адчуюць прыліў фізічнай энергіі і ствапальнай актыўнасці. Перыяд добры для бізнесу, інвестыцый, асабліва калі грошы вы выраашылі ўкласці ў нерухомасць. Але ёсць рызыка стаць ахвярай падману або самападману. Не выключаны і памылкі па няўважлівасці.



**ШАЛІ.** У вас прысутнічае прага да матэрыяльных выгод. Грошы могуць траціцца на куплю прыгожых, але непатрэбных рэчаў. Залішняя марнатраўнасць можа быць звязаная з жаданнем паказаць сябе іншым у выгадным святле.



**СКАРПІЁН.** Тым, у каго добрае здароўе, няма пра што турбавацца, але ў гэты перыяд могуць выявіцца спадчынныя захворванні. Магчымы павышаны бытавы траўматызм, уразлівая нервовая сістэма. Трэба заняцца фізкультурай, спортам.



**СТРАЛЕЦ.** Для тых, хто жадае пашырыць свае фінансавыя магчымасці, надыходзіць добры час. Думайце шырока і не адмаўляйцеся ад варыянтаў.



**КАЗЯРОГ.** Не перагружайце сардэчна-сасудзістую сістэму, не хвалюйцеся і правільна харчуйцеся. Калі ёсць неабходнасць у дыеце, то прытрымлівайцеся яе. Умацаваць арганізм у цэлым дапаможа дыхальная і звычайная гімнастыка.



**ВАДАЛЕЙ.** На вас без прычыны нойдзе нейкая маркота, празмерная жаласць да сябе і канцэнтрацыя на тым, што вы страцілі і чаго не змаглі дасягнуць. У хуткім часе гэта пройдзе, бо ў вашым жыцці ёсць людзі, на якіх вы заўсёды можаце разлічваць, што б вам ні здавалася.



**РЫБЫ.** Многім захочацца забаў. Але сачыце за бюджэтам. Вы можаце непапраўдана купіць нешта дарагое, выдаткаваць грошы на забавы, а потым пашкадаваць. Час спрыяльны для знаёмстваў, наладжвання новых сувязяў, у тым ліку і рамантычных. Шмат што будзе залежаць ад вашай разважлівасці.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | 7 | | | 3 | | | |
| | | | | | 2 | 7 | | |
| 4 | | | | | | 5 | | |
| | 4 | 3 | | 7 | 1 | | | |
| 1 | | | | 9 | | | | 5 |
| | | | 2 | 5 | | 1 | 3 | |
| | | 6 | | | | | | 4 |
| | | 2 | 4 | | | | | |
| | | | 7 | | | 9 | 1 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**16 верасня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +12 / +14 | | +10 / +16 | | +12 / +19 | | +11 / +15 | |
| | 734 | → 9 | 742 | ↗ 2 | 737 | ↗ 2 | 741 | ↑ 4 |
| **Вільня** | +12 / +13 | | +10 / +16 | | +12 / +15 | | +11 / +15 | |
| | 739 | ↗ 9 | 747 | ↗ 6 | 743 | ↗ 5 | 747 | → 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 6.36
Захад 19.43
Даўжыня дня 13.07

Усход 18.13
Захад 1.52
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -1,7 °C у 2000 годзе
Максімальная тэмпература +22,2 °C у 2004 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,9 мм у 1977 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што паставіць замест "сцякляшкі" на плошчы?



**Уладзімір Лаўрыновіч, пенсіянер:**
– Хай падумаюць дызайнеры і архітэктары. Мне падаецца, можна дрэвамі абсадзіць.Ззаду знаходзіцца стаянка, лепш, калі яна будзе нечым прыкрытая. А "сцякляшка" даўно ўжо страціла сваю функцыю.



**Аліна Нарэйка, навучэнка:**
– Трэба нешта прыгожае паставіць або пабудаваць там. Можна якія-небудзь прыгожыя скульптуры ўстанавіць, каб аздобілі плошчу.



**Крысціна Міхайлоўская, у дэкрэтным адпачынку:**
– А нічога тут не паставіш: ні жылы дом, ні пляцоўку для дзяцей. Дрэнна, што магазіны пераехалі. Мне яны вельмі падабаліся. Асабліва магазін дзіцячага адзення. Туды было зручна з дзіцем прыйсці, і выбар адзення добры быў.



**Ганна Сінкевіч, навучэнка:**
– Жылы дом тут дакладна не будзе глядзецца. Хіба нейкі будынак адміністрацыйны. Напрыклад, каб туды пераехаў які-небудзь аддзел райвыканкама.



**Аляксандр Лемяшэўскі, электрык-газазваршчык:**
– А чым перашкаджалі магазінчыкі? Лічу, што гэта быў не самы горшы варыянт. Наогул вошта ўсё забудоўваць шматпавярхоўкамі. Тады гэтыя высокія будынкі тырчаць, як зубы ў бабулі.



**Анастасія Убыкава, бухгалтарка:**
– А якія планы ў райвыканкама на гэты конт? Напэўна, нейкі прыгожы будынак там добра б глядзеўся. "Сцякляшка", канешне, там не зусім добра ўпісвалася, хаця мы да яе прывыклі.



**Дар'я Салаўёва, цырульніца:**
– А мне падабалася, калі "сцякляшка" была ў сваім росквіце. Тут і добры выбар адзення быў, і абутку. І кафэшкі не пуставалі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

● **У Міхаіла Крыватулава з Вілейкі незвычайнае хобі. Ён калекцыянуе мадэлі машынак. У калекцыі Міхаіла машыны экстранных службаў, лепшыя ўзоры савецкага аўтапрама і безліч мадэляў аўтобусаў. Пра віляйчаніна і яго хобі – у наступным нумары "РГ".**

## Гурт "Дразды" знялі самы кранальны кліп гэтага лета

**ВАЛОЖЫН**

Кліп "Вёска" за два дні сабраў амаль 38 тысяч праглядаў на "Ютубе".

Твор гурта "Дразды" нават і кліпам называць не хочацца. Бо гэта хутчэй відэахроніка тых мясцін, дзе прайшло дзяцінства ледзьве не кожнага з нас.

Ну, хто з нас не трывожыў спакой мясцовых бабулек рыкам матацыклаў "Мінск" і "Планета", хто не бег басаном, падымаючы пыл, да возера ці рэчкі?

Хто не любаваўся на буслоў і на тое, як спее жыта? Хто не рваў яшчэ зялёныя яблыкі ў садзе? Асабліва, калі гэты сад суседскі?

Пяшчотай і замілаваннем беларускай вёскай прасякнуты ўвесь кліп "Драздоў".

**Віталь Карпанаў**, саліст гурта, расказаў "Рэгіянальнай газеце", што кліп, магчыма, таму і атрымаўся такім шчырым, бо здымалі яго ў вёсцы бацькоў Віталя, у вёсцы Сівіца, што на Валожыншчыне.

У кліпе ўсё сапраўднае: дзеці, што здымаліся ў кліпе, усе мясцовыя, матацыклы, што здымаліся ў кліпе, належаць самому Віталю.

– Я часта бываю ў вёсцы, разы два на месяц дакладна. І ўсё тое, што паказанае ў кліпе, раблю з задавальненнем: і ў возера нырца даю, і сала люблю на вогнішчы пасмажыць.

У кліпе зняўся чатырохгадовы сын Віталя Карпанава.

– Сыну здымкі спадабаліся. Ён у нас хлопец вясковы!

Таму, калі захочаце адпачнуць душой, хаця б чатыры хвілінкі, уключыце кліп і падпявайце: "Вёска, вёска, вёска, у полі жыта нібы прычоска"...

**Наталля ТУР.**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

**12 верасня на Вялікім Гасцінцы, 134а, у Маладзечне адчынілі новае паштовае аддзяленне. Супрацоўніцы пазіруюць у святочных строях на фоне новага будынка.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

– А хто такі песіміст?
– Гэта праінфармаваны аптыміст.

***

Настаўніца біялогіі пытаецца:
– Дзеці, калі трэба збіраць яблыкі?
Дзеці:
– У жніўні! У верасні!
Вовачка:
– Калі сабака навязаны.

***

Сяджу ў кавярні. П'ю каву. Падыходзіць хлопец і кажа:
– А магу я за вас заплаціць?
Ну, я не разгубілася. Дастала ўсе квітанцыі: за газ, за святло, за ваду.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№37 (1168) 15.09.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 870. Падпісана ў друк у 9.00 14.09.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.
Тэл.: (80176) 53-78-04 (рэклама, факс), 53-78-05 (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), 53-78-06 (журналісты), (8029) 573-28-47, 676-84-20. E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.